# ЗЬМЕСТ.





# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

ГРАМАДЗКА-НАВУКОВЫ І ЛІТЭРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНСТВА.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская вул. № 12, 6.

ПАДПІСКА КВАРТАЛЬНА З ПЕРАСЫЛКАЙ . . 3 зл.
ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ . . . . 1 „

№ 1. | 1924. СЬНЕЖАНЬ. | ГОД I.

В. КУРАЧЫЦКІ.

## Ідзі па дарозе і церням усланай...

Ідзі — па дарозе і церням усланай;
I болю ня чуй, а ідзі бязустанна!
Ідзі — і з цярпеньнем вялікім, святым!
Хай будзе: „наперад!“ лёзунгам тваім!

Ідзі! хоць і сонейка хмары закрыюць,
Хоць віхры гвалтоўны засьвішчуць, завыюць!
Не падай а йдзі „наперад“, бо гэты,
Што духам не падае, — дойдзе да мэты!

Ідзі без паклонаў ўраганам Сахары,
I вер у сябе — ўцялесьняцца мары!
Ідзі — ўсё цярпліва па тамах памалу,
А ўбачыш і воблік свайго ідэалу!

Ідзі, ня спыняйся, — а дойдзешь да мэты,
Ня будуць ахфярай працоўныя леты
Твае! Так ідзі, Беларускі Народзе!
Да сьвету, свабоды! бач! — сонца ўсходзе!..

# СЬНЕЖАНЬ 1924.

У часе—калі палажэньне Беларускага Народу вельмі цяжкое, калі ў Заходняй Беларусі ён ня мае элемэнтарных нацыянальных і нат' людзкіх правоў і зьяўляецца прадметам экспэрымэнтаў польскае адміністрацыі, калі шмат жаданьняў вызывае жыцьцё ў цэнтральнай, т. зв. Радавай Беларускай Рэспубліцы, ды калі ў Усходняй Беларусі, залежнай беспасярэдня ад Масквы, ўсё маўчыць, бо, мусіць, „благоденствует“, — беларуская моладзь ня мае права аставацца пасыўнай сьведкаю ў вялікай працы-барацьбе за вызваленьне Беларускага Народу і яго гаспадарсьцьвеннасьці.

Дзеля гэтага пасьля даўгога часу па закрыцьці „Нашага шляху“ мы з ляпей арганізаванымі сіламі приступаем ізноў да выдаваньня студэнскае часопісі, ўжо пад новым назовам.

Ня гледзячы на цяжыню палажэньня, беларускае адраджэньне йдзе борздымі крокамі ўперад, творыцца беларуская культура, расьце лічба сьвядомых рабачаёў, адным словам ідзе запраўдная Арганізацыя Народу.

Гэта нам і нашым спагаднікам дадасьць сілы ў працы.

Шчапаць узаемна лабы за тое, на якім крэсьле і як трэба будзе сядзець у хаце, калі ў ёй яшчэ пануе чужнік, ня думаем, з Беларусамі вадзіцца ня зьбіраемся, але зьвернем нашую ўвагу на тое, што паможа, каб у хаце як найбарджэй загаспадарыў запраўдны яе Гаспадар—Беларускі Народ! Значыцца ў нашай працы ня будзем кіравацца партыйнасьцяй, але—служыць Бацькаўшчыне і ўсёй беларускай моладзі, бяз розьніцы паглядаў, бо ўсе хочуць адраджэньня Беларускага Народу і стварэньня Беларускага Гаспадарства.

Але апартыйнасьць ня вылучае тарнаваньня да патрэбаў народу, і мы запраўды прытарнуемся, бо ведаем гэтыя патрэбы, ведаем куды йсьці й кудой ісьці. Дапушчаем і жадаем, каб у тварэньні беларускае культуры й гаспадарсьцьвеннасьці прыняў учасьце ўвесь Беларускі Народ бяз вынятку, але маем на ўвазе тое, што прынамся 95 проц. нашага народу складаецца з працоўнага сялянства, дзеля гэтага пераважную й галоўную нашую ўвагу зьвернем на ідэолёгію, патрэбы й арганізаваньне сялянскае моладзі.

Ня хочам паміж студэнтамі высокіх школаў і студэнтамі школаў сярэдніх ставіць кітайскае сьцяны, але наадварот—з абодвух імкнемся стварыць адну супольную, суцэльную арганізацыю студэнскую, дзе былі-б дзьве асобныя сэкцыі — высокашкольная і сярэдняшкольная. Пераход студэнта з сярэдняе школы ў высокую мае быць прыродны і просты, бяз усякага містыцызму. На захадзе Эўропы гэткія супольныя арганізацыі добра разьвіваюцца.

Далей, студэнства не павінна тварыць якоесь касты, але жыць супольным нацыянальна-грамадзкім жыцьцём з усёю беларускаю моладзьдзю.

Дзеля ўсяго гэтага Студэнская Думка будзе мець на ўвазе беларускае студэнства высокіх і сярэдніх школаў ды ўсю інтэлігэнтную і поўінтэлігэнтную беларускую моладзь,—наўперад вучыцельства.

Мы пэўны, што нашая моладзь прылучыцца да нашае працы і паможа нам як сваім супрацоўніцтвам у часопісе, так і пашырэньнем часопісі, знаходжаньнем ёй падпішчыкаў, зьбіраньнем ахвяраў на фонд і г. п.

Але гэтага мала. Студэнская Думка прадстаўляе агульны ідэйны кірунак адраджэнскае беларускае моладзі, а дзеля гэтага пры яе пасярэдніцтве ўся сьвядомая беларуская моладзь, ад студэнта высокае школы да малапісьменнага вясковага хлапца ці дзяўчыны, мае прыняць учасьце ў нацыянальнай беларускай працы, ў асьведамленьні сваіх несьвядомых братоў і сёстраў, арганізаваньні і г. д. Ня гледзячы на вельмі цяжкія варункі жыцьця й працы, кожны мае павіннасьць і магчымасьць працаваць. Калі мы гэтак усе сыстэматычна і ўпорна будзем спаўняць нашыя беларускія павіннасьці, дык можам быць пэўны, што вызваленьне нашага народу не за гарамі, а тады яму і ўсім нам будзе лепей!

**Рэдакцыя.**

# Кудой ісьці.

Юнацкі пэрыяд у жыцьці чалавека — гэта самая сьветлая, самая лепшая пара.

Пара, калі перад маладымі вачыма раскрываецца зусім новы, нязьведаны сьвет, калі пазнаюцца новыя праўды і новыя чыстыя радасьці, калі сьветазорны Ідэал вабіць сваей красой і кліча да ахвяр дзеля яго. У гэту пару — пару гарачых, бурных імкненьняў і выбухаў куюцца і фармуюцца душы моладзі. А ад таго, што ўбірае ў сябе юная душа ў часе свайго росту, залежыць найчасьцей выбар усяе далейшае жыцьцёвае дарогі чалавека.

Моладзь, больш чым хто, шукае, і моладзь, больш чым хто, знаходзіць. А ў кірунку шуканьня і ў прысваеньні знаходжанага найбольш ярка і поўна выяўляецца індывідуальнасьць чалавека.

Вялікія катаклізмы — войны, рэвалюцыі — вельмі цяжка адбіваюцца на душах моладзі ў пэрыядзе іх фармаваньня. Кволыя йшчэ нэрвы, неўмацаваная псыхічная арганізацыя ня выдзержываюць націску жыцьцёвае буры, што магутнымі ўдарамі сваімі руйнуе дзяржавы і перабудоўвае ўвесь іх унутраны лад. Уражлівасьць юнае душы прытупляецца ад вялізарнае масы новых перажываньняў, — перажываньняў нязвычайна сільных, вострых. І, быццам кветка, надломаная бурай, юная душа перадчасна завядае. Яна губляе здольнасьць шчыра, поўна радавацца і сумаваць, жадаць, любіць, ненавідзець. Юная душа без пары старыцца.

А бывае і горш: у ёй разьвіваецца патрэба ўсё новых і новых перажываньняў — штораз вастрэйшых, вастрэйшых за перажытыя страшэнствы крывавага змаганьня народаў і клясаў. Такіх перажываньняў чыстых знайсьці трудна. І маладыя душы пагразаюць у ціне жыцьцёвага бруду, зыходзяць з дарогі сьветлых ідэалаў, зьвядаюць і губляюць воблік чалавека.

У такія пэрыяды грамадзянства павінна напружаць усе свае сілы, каб даць ратунак моладзі. У такія пэрыяды лепшыя, здаровыя элемэнты самае моладзі павінны ісьці на ратунак сваім таварышам. Такі мамэнт перажывае наша моладзь цяпер. Пасьля вайны і рэвалюцыі на Усходзе, пасьля падзелу Беларусі дужэйшымі суседзямі, пасьля патаптаньня імі найсьвяцейшага Ідэалу нашага народу — моладзь апынулася ў стане страшэннае духовае дэпрэсіі. Пры духовым зьнемажэньні — зьняверые ў магчымасьць дасягнуць нацыянальны Ідэал, які здаецца цяпер такім далёкім, недасяжным.

З гэтага стану духовага маразму трэба выйсьці. Трэба вярнуць сілу і гарт маладым душам. Трэба ўдыхнуць у іх веру ў Ідэал, удыхнуць гарачае жаданьне абнаўленьня, творчае дзейнасьці. Трэба каб наша моладзь была запраўды маладой, каб вярнулася ей духовая сьвежасьць юнацтва — з яго чыстымі, сьветлымі перажываньнямі, жаданьнямі, радасьцямі.

Дзе ж шукаць крыніцы тае сілы, тае „радасьці жыцьця“?

На вялікі жаль, наша народная інтэлігэнцыя мае йшчэ сама лішне мала „радасьці жыцьця“, лішне мала духовае сілы, каб дзяліцца з моладзяй. Жыцьцё беларускага інтэлігента ў цяперашнія часы — гэта чыстая катарга. Шуканьне хлеба пры немагчымасьці знайсьці працу; палажэньне „западозранага ў здрадзе гаспадарства“, вечная пагроза арыштамі, судовымі працэсамі, а то і высылкай за межы краю, зьдзек з боку кожнага, хто залічае сябе да „паноў палажэньня“—вось варункі, ў якіх вядзе сваё вечна галоднае жыцьцё сучасны беларускі інтэлігэнт. І да ўсяго гэтага дадаецца йшчэ вялізарны цяжар адказнае, нэрвовае грамадзкае працы, цяжар матэрыяльных ахвяр на гэту працу. Як жа ў нашай інтэлігэнцыі шукаць „радасьці жыцьця“, крыніцы духовае сілы і ідэйных парываў?

Апрача інтэлігэнцыі істнуе ў нас многамілёнаая грамада сярмяжнага народу. З яе вырастае нашая інтэлігэнцыя, вырастаюць нашы павадыры. Жыцьцё падразае ім крыльлі, пазбаўляе сілы да лёту ўвыш. Але ад тых мукаў, што церпіць наша інтэлігэнцыя, губляючы сваю сілу, не памяншаецца вечна-творчая сіла народу, што выдае з сябе інтэлігэнцыю і надзяляе яе ўсім патрэбным да жыцьця. І калі інтэлігэнцыя ў знямозе губляе сваю „радасьць жыцьця“ калі яна няздольна ўзбагаціць і адрадзіць душы моладзі, — дык моладзь павінна сама сягнуць рукой да пра-крыніцы ўсяго — да народу.

Сувязь з народнай масай, з якое выйшла блізу ўся наша моладзь, прадстаўляе адзіны моцны і пэўны грунт, на якім моладзь можа абапёрціся. Трэба моцна стаяць на зямлі, каб вачыма сачыць за зоркамі ў небе, каб знайсьці для сябе сваё ўласнае, новае неба. І моладзь знойдзе свае ясныя зоркі і сваё неба толькі апіраючыся на магутную, нязломную ўсенародную сілу. Як-жа рэальна разумець гэта? Як дайсьці гэтага? Дарога да гэтага — знаёмства з ідэалёгіяй нашых працоўных масаў, з імкненьнямі і жаданьнямі многамілённай сярмяжнай грамады. Дарога праз пазнаваньне вечнага творчага працэсу, што адбываецца ў народнай масе, даючы праўдзівыя пэрлы паэзіі ў постаці народнае песьні, казкі, легэнды. Дарога — праз самае шчыльнае зьліцьцё свае душы з душой народу, праз спачуваньн-

не народным бедам і гору, праз уразуменьне, што моладзь — гэта неаддзялімая інтэгральная частка гэтага народу, косьць ад косьці яго, найлепшы плод творчасьці яго. Усе мы — ці то сыны сялян, хлебаробаў, ці работнікаў, ці прадстаўнікі пазаклясавай інтэлігэнцыі, — усе мы можам пачуць у сабе моц і сілу толькі пачуваючы пад сабой цьвёрды, як скала, народны грунт. „Дай мне на чым стануць і я абярну зямлю!“ — гэтыя словы грэцкага філёзафа можна прыкласьці й да нашае моладзі. Толькі абапёршыся на свой народ яна здалее знайсьці ў сабе тую духовую сілу, без якое немагчыма ніякая творчасьць, немагчыма поўнае, шырокае жыцьцё, немагчыма „радасьць жыцьця“.

Наш вялікі пясьняр, Максім Багдановіч, які перажыў усе шуканьні і блуканьні моладзі ў часы страшэннае палітычнае і духовае рэакцыі пасьля 1905 году, знайшоў нявычарпаную скарбніцу дзеля ўзбагачываньня сваей паэтыцкай творчасьці ў беларускай народнай паэзіі, — паэзіі зямлі.

І пэўне-ж не здарма напісаў ён гэтыя радкі, якімі мы закончым нашае слова:

„Калі зваліў дужы Гэракл у пыл Антэя,
Як вецер валіць поўны колас да ральлі, —
Удыхнула моц у грудзі сына маці Гэя,
І вось, цьвярды, як дуб, яшчэ, чым перш, сільнее
Ен, панапружыўся, падняўся ўраз з зямлі
Паломаны жыцьцём, чакаючы магілы.—
Радзімая зямля, прынікнуў я к. табе!
І бодрасьць ты ўліла ў слабеючыя жылы,
Зварушыла маей душы драмаўшай сілы,
І месца ў ёй з тых пор няма ўжо больш жальбе“.

Калі зямля — Гэя так узмацавала сілы кволага, задушанага на сьмерць непапраўнай хваробай паэта, —дык якую ж нязьведаную сілу і моц павінна пачарпнуць з роднай зямлі, з свайго Народу наша моладзь — здаровая, толькі зьнямогшая ад жыцьцёвых бур і навальніц!

**А. Н.**

# Патрэбы вескі.

У працягу шасьцёх лет беларуская вёска была дачыста зруйнавана. Беларусь — гэта шляхі адступленьня розных арміяў, мейсца нявіданых баёў, нячуваных мэтадаў высяляньня жыхараў з родных гнёздаў, калі расейскі штаб стасаваў тактыку Растопчына з прад 100 гадоў.

Па сяньня толькі груды каменьняў ляжаць на мейсцы былога жыцьця, а ральля парасла лесам.

Па сяньня шмат вёсак месьціцца ў зямлянках — адбудова вядзецца паволі, калі яна наогул практыкуецца. Найчасьцей з боку Ураду няма ніякай падмогі, і пакрыўджаныя падзеямі вайны сяляне мусяць адбудовываць спаляныя сялібы сваім стараньнем і коштам

Дагэтуль не адбудавана шмат вёсак і местаў (Смаргоні і інш.)

Ня гледзячы на прывязаннасьць да роднай страхі і загону, які ледзь мог выжывіць земляроба, Беларусы былі змушаны пакінуць пепелішча, — іх прымусова гналі спэцыяльныя аддзелы вайсковыя на Усход, або высялялі нямецкія ваенныя ўлады на Захад, далей ад лініі фронту, ў б. Царства Польскае.

Шмат хто з гэтых „бежанцаў“ — ляпей выгнанцаў — не вярнуўся. Толькі найболей здаровыя здолялі прыбыць на родныя гоні

Гнала іх туга да свайго „раскіданага гнязда“. Ня здолялі вярнуцца да яго старыкі і кволая моладзь. Ім не пад сілу аказаліся мукі выгнаньня.

Нажаль дагэтуль няма статыстыкі ўбытку жыхарства Заходняй Беларусі за час 1915—1923 год

Тыя ж, што асталіся пры жыцьці і вярнуліся да родных вёсак, ува многім зьмяніліся. Блуканьне па сьвеце, ці то на Усходзе, ці на Заходніх старонках, аставіла сьляды на псыхалёгіі беларускага сялянства.

Падзеі 1915 году—гэта„ перасяленьне народаў“ для беларускай вёскі

У вандроўцы па сьвеце беларус прыгледзіўся да тых, ці другіх парадкаў. У першай чарзе ягоная ўвага мусіла затрымацца на зямельным пытаньні, на аграрных варунках у чужыне.

Апошнія здавен-даўна былі цяжкія на Беларусі. Вялікія дамэны паноў—дробныя сялянскія гаспадаркі побач. Гэтая драбніца паложана ў шахаўніцы, дзе пераважывалі вузенькія па загоне а верставыя ўдаўжкі палоскі пры ўсё-ж растучым раздрабленьні сялянскай зямельнай собскасьці, — адчувалася вёскай нашаю як зло, але канешнае, вырастае на традыцыйным спосабе гаспадараньня.

Недахват асьветы, асабліва гаспадарчай і прыродны кансэрватызм селяніна нашага параліжавалі ўсе спробы зрушыць вёску ў бок шуканьня выхаду з гэтага дрэннага палажэньня

Аднак-жа ўжо да 1914 г. шмат вёсак прыстала на замен шахаўніцы (цераспалосіцы) на хутары. Гэтая карысная для вёскі рэформа праводзілася за кошт расейскага ўраду, як гаспадарсьцьвенная канечнасць.

Выселяны беларускі селянін, папаўшы ці то ў палон, дзе ён, як добры рабачай быў выкарыстаны пры працы на зямлі ў нямецкіх, ці аўстрыяцкіх дварох, убачыў вышэйшасьць новых спосабаў гаспадарчага выкарыстаньня зямлі.

Там-жа ён прыкмеціў у дробным уладаньні добрую хутарную гаспадарку.

У Расеі беларус спаткаўся з яшчэ балей прымітыўным спосабам гаспадараньня — з абшчынай, што для яго было незразумелым і аказалася не да прыйма.

Рэвалюцыя 1917 году з яе радыкальнымі лёзунгамі ў зямельным пытаньні мусіла захапіць нашага земляроба і аказаць на яго ўплыў.

Далёкі ад палітычных клічоў, сярод каторых сьпярша ён ня мог арыентавацца, беларус задумаўся над тым, што гаварылася ў часе рэвалюцыйнай работы ў Расеі і пасьля, пры будове новага парадку.

І калі расейскі земляроб адразу прыняў блізка пераход на панскія землі, прылучыў іх у абшары абшчынага ўладаньня, — беларускі селянін заняў цікавае становішча ў зямельным пытаньні.

Моцна прывязаны да зямельнай собскасьці ён ня ўверыў адразу ў трываласьць новага курсу ў гэтым пытаньні па рэвалюцыі 1917 г., калі чуў, што можна і мае права йсьці гаспадарыць на чужым дагэтуль загоне.

Ен сьпярша слухаў дэкрэтаў і ўказаў, якія яму даравалі зямлю, і тут-жа шукаў земляўласьнікаў, каб асабіста ад іх атрымаць права на выдзеляныя яму дэкрэтамі гаспадаркі.

Аднак яго сьвяты пагляд на зямельную собскасьць адносна да вялікіх абшараў быў зламаны самым жыцьцём і ўкладам стасункаў па 1918 годзе ў Расеі і ў той частцы Беларусі, якая ляжала на Усход ад баёвай лініі 1915 году. Стоячы на грунце сьвятасьці свае зямельнае собскасьці, беларускі селянін задумаўся над тым, што ў яго гэтай собскасьці замала, калі побач ляжаць вялікія панскія абшары.

Рэвалюцыя ўнясла рысу ў кансэрватызм яго псыхалёгіі з гэтага боку.

Па павароце на родныя загоны беларускі гаспадар трапіў у варункі, якія далей разьвіваюць гэтую старану яго сьветапагляду на зямельныя стасункі.

Ен трапіў на дэмакратычны ўстрой у Польшчы, дзе істнавала партыйная агітацыя і ўсенароднае галасаваньне.

Да нашага селяніна падходзяць беларускія і польскія партыі, каб здабыць яго галасы.

Гэтыя партыі, — нават польскія, дзеля агітацыйных мэтаў — часта на вецяр, як гэта аказалася ў практыцы польскіх партыяў, выстаўляюць праграмы па зямельнаму пытаньню, якія йдуць меней-болей па думцы беларускага сялянства.

У 1920 годзе Сойм ухваляе зямельную рэформу ў Польшчы.

Сяляне спадзяюцца зьдзейсьненьня сваіх пажаданьняў на зямлю, што магло-бы даць ім магчымасьць жыць зносна і самастойна, а ня быць батракамі ці паўбатракамі на землях абшарніка суседа

Гэны мамэнт, выкліканы падзеямі ваеннага часу, заважыў на вобліку вёскі нашай і яшчэ доўгі час будзе мець рашучы ўплыў на ўсё яе жыцьцё.

Зьдзейсьненьне гэтых жаданьняў, якія ставіць сялянская маса, закончыць яго, хаця цалком неразьвяжа.

Цяпер ужо сялянства перастае быць інэртнай масай, а становіцца актыўнай часткай жыхарства на Беларусі, сьведамае сваіх патрэбаў і правоў, — дагэтуль яно пачувалася толькі да абавязкаў.

Гэта мамэнт сацыяльны.

У цесным зьвязку з гэным, мо ў залежнасьці ад гэнага мамэнту, відзім яшчэ адзін уплыў апошніх лет на жыцьцё і воблік вёскі, важнейшы ад першага, - вырашэньне адказу на пытаньне: „хто мы“.

Выясьняецца ў сьведамасьці сялянства яго нацыянальны воблік.

Тыя самыя перамены, аб якіх ужо ўспаміналі, памаглі шмат селяніну паставіць выразнае пытаньне і разьвязаць яго: — хто такі ён, якой нацыянальнасьці?

— Бадзяньне па сьвеце і падзеі рэвалюцыі памаглі разьвязаць гэнае пытаньне.

Апынуўшыся сярод гушчы расейскага народу, беларус пачуў, што ён ня р у с к і; папаўшы ў Кангрэсоўку, пазнаў, што гэтак сама нельга яму назвацца п а л я к о м, бо там другі народ, каторага трудна яму паняць.

Адпаў крытэрый рэлігійнасьці, якім кіравалася вёска пры выпрашаньні свайго нацыянальнага вобліку. Тое, што было адчувана няясна перад вайною, стала ясным цяпер; беларуская вёска нарадзілася ў самым спазнаньні сваім.

Адпалі тэрміны „тутэйшых", „расейцаў—праваслаўных" і „палякаў — каталікоў". Ясна стала адно, што гэта ня „тутэйшыя", а беларусы.

Паварот псыхічны да роднага карэньня.

Працэс гэны нацыянальнага ўсьведамленьня вёскі цягнўся ад 1914 году дужа борзда. — Ен ідзець яшчэ барджэй і сяньня.

Кожная акупацыя,кожны пераход арміяў быў яму на руку. Праходзіўшае войска спатыкалася з беларускай вёскай і адкрывала беларусу вочы, што ўсё гэта людзі не ягонага складу псыхікі, што ён іншы—н е п а л я к і н е р а с е я ц.

Калі-ж такая думка не зьяўлялася ў абяднеўшага ад падзеяў вайны беларуса сама, дык чуў яе ад тых, што прыйшлі здалёку.

З тэрміну этнаграфічнага цесна зьвязана з дасюляшнім спосабам жыцьця селяніна, калі ён далей як да павятовага места не выяжджаў, беларуская вёска перайшла на грунт сацыяльна—грамадзкі і нацыянальны.

Стаўшы на гэты грунт вёска перарадзілася. Перастала быць пасыўнай глядзельніцай грамадзкага жыцьця, а пачала хацець тварыць яго сама.

Сялянства карыстаецца з тых магчымасьцяў, якія даюцца яму ўкладам грамадзка — прававых адносінаў, стаўць голасна свае дамаганьні, якія вырастаюць цяпер на грунце нацыянальнага пад'ёму і адчутых зямельных патрэбаў.

Перад усім дамагаецца зямлі. Калі ў летку 1920 г. Сойм Польскі ўхваліў рамкі зямельнай рэформы, — ў якія дагэтуль ня ўложаны абраз, — бо дагэтуль рэформа ня зьдзейсьняна — беларускае сялянства з радасьцяй прыняло гэты сацыяльна справядлівы і патрэбны закон. Нажаль, ухваляны як палітычны мамэнт, калі вораг быў „ante portas",пад сьценамі — як баявы кліч да сялянскай масы, — гэная добрая навіна дагэтуль для беларуса, апрача бяды, нічога не дала.

Прыняўшы закон з верай у магчымасьць яго зьдзейсьненьня і выкарыстаньня, сяньня беларускі селянін ня верыць, каб гэнае яму-ж на дабро выйшла пры сучасных адносінах да яго ўлады.

Бо з тых дзесяткаў тысяч дзесяцін, каторыя разданы на падставе закону 1920 г., беларуская вёска ня шмат дастала. Затое яна маець чужых па духу людзей, выхаваных вайною, ніколі не гаспадарыўшых, якія часта глумяцца над адвечным жыхарам Заходняй Беларусі — гэта асаднікі.

У гаспадарчым жыцьці пануюць гаспадарчага характару правы.

Асадніцтва з гэтага боку не зьяўляецца прадуктам гаспадарчай канечнасьці — гэта чыста палітычнае зьявішча.—Яно пераведзянае на гаспадарчы грунт не дало і ня дасьць нічога, апрача няўдач і клопату для гаспадарства. Каштавала-ж яно шмат.

І вось першае расчараваньне нашага сялянства: яго жаданьне зямлі не знайшло зразуменьня —зямлю дасталі людзі чужыя, неспакойныя часта суседзі.

Калі-ж здарыўся выпадак, што ў зямельных урадовых інстытуцыях сядзеў справядлівы ўрадовец і капнуў крыху малую для селяніна, то ён меў за гэта камісіі, якія прыяжджалі ажно з Варшавы, каб сьцьвердзіць гэтую „антыпанствовую“ дзеяльнасьць польскага ўрадоўца. *)

І закон, які меў на мэце паправіць соцыяльную крыўду, задаволіць сялянскую гушчу, астаўся пустым гукам, бо свайго соцыяльнага значэньня ня споўніў.

Нацыянальная сьведамасьць беларускае вёскі парадзіла шмат імкненьняў на дарозе да „новага жыцьця“. Выстаўляюцца жаданьні школы ў роднай мове, пачатковай і сярэдняй. У гэнай справе сялянства знайшло падгатоўляны грунт з часоў нямецкай акупацыі, калі акупанты ўнясьлі ў школьнае пытаньне навеў культурнага Захаду і ў справе пачатковага навучаньня кіраваліся пэдагогічным прынцыпам: навучаньне дзяцей у матчынай роднай мове. Нат падзеі вайны ня былі ў гэтым перашкодай. Вёска ахвотна імкнецца да роднага слова ў школе. Аткрываецца шмат пачаткавых школаў, вучыцельскія курсы і сэмінары, арганізуюцца курсы беларусазнаўства, каторыя прыгатаўляюць вучыцялёў у беларускія школы. Упалі аковы, ў якіх трымаў беларускі народ царскі Урад, і вёска беларуская голасна загаварыла, што яна імкнецца да прасьветы і навукі. Хутка знаходзяцца вучыцялі, якія ахвярна ідуць на вялікую працу з цемрай і нясуць паходню сьвятла ў глухія куткі Бацькаўшчыны.

Аднак ня ўсё забыта яшчэ з тых часоў, калі на Беларусі гуляла пятля Мураўёва. Знаходзяцца галасы, якія ў гэным імкненьні беларускага сялянства да роднай школы відзяць нейкія паўстанчыя тэндэнцыі і імкнуцца да спыненьня натуральных сьветлых парываньняў беларускае вёскі на шляху прасьветы. Шаг за шагам адбіраюцца родныя школы, іх закрываюць, каб весьці школу ў „гаспадарсьцьвеннай“ мове, — а то часта каб на яе мейсца ня даць нічога.

Ідзе ліквідацыя беларускіх школаў у Заходняй Беларусі і барацьба, якую вядзець з беларускім грамадзянствам, уваружаным толькі ў свае правы, прызнаныя яму канстытуцыяй, якая нажаль, яшчэ ня ўведзена ў жыцьцё, Польскі Урад, узброяны ўсімі прэрагатывамі сілы, тайнымі або і саўсім яўнымі інструкцыямі. А ўсё дзеля аднае мэты: забіць беларускую школу!

Барацьба гэная вымагае асобнае манаграфіі і ў гэтым разважаньні нельга цалком і поўнасьцю яе прадставіць.

Урэшце сам Урад Польскі зразумеў, што ідзе па дрэннай дарозе і вось даў аслаўляныя перад Заходняй Эўропай, як прадукт лі-

---

*) Такое здарэньне было у Навагрудзкім Акружным Урадзе у Горадні.

бэральнай палітыкі польскай—языковыяз аконы, лёс каторых, як і канстытуцыі будзе, пэўна-ж, той самы. Яшчэ ня ўведзяныя ў жыцьцё яны стануць перарабляцца.

Гаспадарсьцьвеннасьць змагаецца з грамадзянствам, не разумеючы што дабро апошняга — яе собская моц і сіла.

(Працяг будзе). А. З.

# Харашуха без пасагу.

Дык спомвіма-ж мы і аб краі,
у якім усе узрасьлі,
і Белую Русь, успамінаушы,
паклонімся ей да зямлі.
(словы з гімну Віцебляи 1908 г.)

„Харашуха без пасагу" гэтак часам характарызуюць „Белую Русь". Да цябе, зямля родная, з краю далёкага, з свабоднае і гордае зямлі чэскае, што нядаўна ськівула з сябе чужаземнае ярмо, заўсёды ўцемлююцца вочы мае. У цемнь ночную ўсплываюць родныя палі, скромныя вёскі, старыя лясы, пушчы, быстрыя воды Прыпяці, задумлёны Нёман, ціхі Дняпро з харашухай Дзьвіною, і быццам нейдзе далёка чуецца голас паэты: „На Табе (Дзьвіна) князь Валадзімер Рагнеду браў у палон, па Табе дванаццаць языкоў вёў Наполеон".— Неразрыўна ў сувязі з гэтымі словамі ўстае старая старожа былое славы Твае, — Сьв. Софія Полацкая. — Многія вякі прайшлі, прасьліся ваенныя буры, зьмяніліся цэлыя пакаленьні, але Ты, Софія, стаіш, як раней, пазорна-вялікай *) і дзіўной і многае, многае можаш расказаць цікаўнаму падарожніку. Аднаго толькі вымагаеш ад апошняга, каб ён мог супакойна ўцеміць вочы свае ў глыбіню вякоў і разам з Табою падумаць аб долі зямлі роднае і пазнаць яе.

Удумваваючыся ў падзеі мінулых дзён свае дарагое Бацькаўшчыны, быццам сама сабою падымаецца думка — пазнаць сябе самога, ўсьвядоміцца, зважыць увесь свой духоўны сьвет у адносінах да людзкасьці, як такое, ў усім яе абыйме, а так сама і да тае нацыянальнасьці, да якое і па тэрыторыі і душэўнаму складу належыш — выясьніць сваю нацыянальнасьць. Пры разглядзе пытаньня ў адносінах да людзкасьці, беспасярэдня выцякаюць пытаньні моралі й этыкі, а ў адносінах да самога сябе, пытаньні нацыі з яе гістарычнымі заданьнямі.

Гэткім парадкам, ня гледзячы на такое простае пытаньне, — разьвязаць яго ня вельмі лёгка. Пройдзе шмат часу, пакуль усе шурпатасьці згладзяцца і грамадзянства людзкое лепей навучыцца разумець адно аднаго. І можна будзе назваць таго шчасьлівым, хто вымянёныя векавітыя пытаньні прывядзе да жаданага канца, і тым самым ідэю ўжыцьцёвіць. Зачыняць нам на іх вочы і старацца абмінуць моўчкі нельга. Бо ў наш час усялякіх крызісаў і пераходных

*) Народнае слова «пазорны» значыць харошы, хораша выглядаючы, напару адпавядае маск. „видный". Дык пазорна-вялікі будзе адпавядаць маск. „величественный",

станоў само жыцьцё як-бы падказуе куды нам імкнуцца і чаго чакаць. Тут ужо хоцькі—няхоцькі мусіш так ці інакш разьвязаваць, той ці іншы даваць адказ. Часта нат' не памяркаваўшы на колькі ён добры ці можа будзе шкодным у будучыні, абы здаволіць гарачыя патрэбы часіны.

Ад філёзофа, назіральніка краю, ў якім калісь былі вялікія здарэньні, вымагаецца глядзець ня з вышыні горнае філёзофіі, а падыйсьці прасьцей, бліжэй да зямлі і чалавека.

Апошні па сваёй прыродзе створаны свабодным, і свабодны, калі-б нават радзіўся ў зялезьзі. Гэткія-ж задаткі і ймкненьні ў кожным народзе й нацыі, бяз розьніцы: вялікая яна ці малая. Гэтаму яшчэ памагае й тое, што кожная асобная нацыя мае ў сваім жыцьці асаблівасьці вылучна належачыя ей адной, і дзякуючы гэтым асаблівасьцям разьвіваецца йначай, чымся іншы народ або іншае племя. Гэтыя асаблівасьці ў гістарычным жыцьці народаў бываюць у залежнасьці ад многіх прычын: географічных, кліматычных, этнографічных, палітычных і г. д. Гэта можам пацьвердзіць прыкладамі з старавечнае пары. Гэтак Фінікія з прычыны свайго марскога палажэньня сталася тарговым гаспадарствам, у яе разьвілося мараплаваньне. Усе гэтыя асаблівасьці адбіліся на ўсёй фінікійскай культуры.

У старавечнай Грэцыі, дзякуючы нязначнасьці яе тэрыторыі і рэзкім прыродным граніцам, адлучанасьці аднаго племечьня ад другога, і з прычыны спагадных кліматычных умоваў, рана вытварылася арыгінальнае палітычнае жыцьцё і арыгінальная антычная культура і г. д.

Толькі што паказаныя ўмовы ў той ці іншай ступені і ў наш час граюць не малую ролю.

Розныя неразьвязаныя палітычныя пытаньні ў сувязі з эканамічнымі вызвалі сусьветную вайну. Рэзультаты яе ў большай ці меншай ступені адбіліся на тым ці іншым народзе. Зьявіўся цэлы сьцяг малых гаспадарстваў. Зьявіліся новыя палітычныя комбінацыі, бо б. дагэтуль рознаплямянныя вялікія гаспадарствы раскладаліся на свае складовыя элемэнты. Усялякія асобныя плямеьні заявілі свае правы на самаазначэньне і сваё нацыянальнае адраджэньне.

Падыходзячы да толькі што заданых пытаньняў з гістарычнага гледзішча, мы бачым, што якія-бы спосабам закраненыя намі пытаньні ні затушоваваліся, ўсё-ткі яны жылі ў сэрцах людзкіх. Чым балей іх стараліся выкараняць, тым з вялікшай сілаю яны адзываліся. І гэта зразумела. Чым мацней сьціскаем сьпіральную пружыну, тым дужэйшая яе аддача; чым душнейшая робіцца атмосфэра, тым вялікшыя бываюць навальніцы з markознымі ўраганамі й градамі.

---

Прызнаўшы свабоду асобы й нацыі, паглядзём, хто ў наш век кіруе жыцьцём і зьяўляецца гаспадаром у вусіх яго вобласьцях.

Гэта дэмакратыя, якая абвесьціла бязудзержную і бесканечную барацьбу інтарэсаў, прызвала ўсе людзкія сілы й здольнасьці на поле палітыкі, вылучна практычных імкненьняў данага часу. Гэта маса

людзкая, калісь паніжаная й зьняважаная, цяпер-жа імкнецца заваяваць сабе першае месца ў гаспадарстве й грамадзянстве і ўжо запраўды займае вярхі сучаснае цывілізацыі.

Зірнуўшы крыху на старыя традыцыі, навеяныя вякавым складам жыцьця аб гаспадарчай і кіруючай клясе таго ці іншага гаспадарства й народу, мы пабачым, што цяпер на сцэну выходзяць людзі, якія па самай сваёй прыродзе і асабліва па ўмовах свайго быцьця сусім ня хочуць праводзіць тыя пагляды й пераканаваньні, каторымі жыла папераджаючая іх кляса і гэта сусім зразумела. Калі ў першых быў прынцып супакойна сядзець на гары і глыбокадумна пазіраць на хвалі народнага мора ўнізе, і нават прызнаць правы прогрэсу, але толькі хай яны ўжыцьцёўляцца самі, а чалавек павінен бязупынна працаваць і ўсьцешна карыстацца жыцьцём на сваім месцы і ў сваім крузе, — дык другіх ідэалам ёсьць толькі адно карыснае. Дзеля правядзеньня свае ідэі ў жыцьцё яны не адмовяцца парухаць увесь стары сьвет і жыцьцё ўсяе людзкасьці пабудаваць пасвойму, ня лічачыся ні з якімі ахвярамі.

Не дапусьціць падобнае дзейнасьці нельга. У праціўным выпадку, гэта значыць вызваць агульны агонь, які ўсё на сваёй дарозе спаліць. Запраўднымі памоцнікамі гэткаму пажару ёсьць тухлая і мёртвая атмосфэра ўсяго грамадзянства, пусьціня інтэлігэнцыі, цемната народных масаў..

Усьцерагчыся-ж няшчасьця магчыма з аднаго боку скасаваньнем становых і сьвецкіх традыцыяў і зьменай старых адносінаў, з другога-ж боку адзіноствам усіх навуковых сілаў, сьціраваных да дружнае ідэйнае працы ў імя любові свайго народу і яго мінуўшчыны. — Мінуўшчына народу неразрыўна зьвязана з цяперашніняю, і адно ад аднаго ня можа быць адарвана У праціўным выпадку можа стацца бяздоньне, каторае праглыне ўсю нацыю, і якія-б мы тады не праводзілі рэформы, — нічагусенькі не паможа. Дый самога заканадаўцу ніхто не зразумее. Ен астанецца адзін. З ім толькі здаровы розум і яго талент. Проці яго вякамі выробленыя правілы й традыцыя.

Задзержуючыся на нацыянальнай працы, бачым, што народна-нацыянальная праца абымае сабою вельмі розныя пытаньні.

Як ілюстрацыю, дазволю сабе паказаць на гэткую гістарычную няпраўду.

Гэткія вялікія пісьменьнікі як Аляксей Толстой і Гэнрых Сенкевіч, рысуючы адзін тып Гарабурды, другі Валадыёўскага і Кміціча, не пастараліся нават паказаць іх нацыянальнасьць. Абодвым пісьменьнікам, якія апісываюць родзічаў Беларусі, зямля Полацка — Віцебска — Магілеўская з яе насяленьнем і ёсьць Польшчай. Але-ж патомкі вышэйвыменяных гэроеў, каторыя жывуць і дагэтуль, ніколі ня лічылі і ня лічаць сябе палякамі.

Нам, будучым рабачаём зямлі Беларускай, закранёных пытаньняў ні ў якім прыпадку нельга ўсьцерагчыся. На нашую долю выпадае тое ці іншае іх разьвязаньне і правядзеньне ў жыцьцё. Ведама, ідэальна разьвязаць іх ня можам і дзеля людзкое слабасьці можам зрабіць тыя ці іншыя абмылы, каторыя й будуць крытыкаваць ідучыя за намі пакаленьні. Але такая доля кожнага пакаленьня,—нам

гэтага баяцца няма чаго. Але, зрабіўшы мінімальную колькасьць абмылаў, прыблізіць праблемы да іх адноснага разьвязаньня мы зможам. Уданым выпадку нам апораю будзе адзіня (адзіноства) ўсіх культурных сілаў нашае Бацькаўшчыны. Гэтая суцэльнасьць нам вельмі й вельмі неабходна. Наўперад яна нас самых паддзержыць і не дазволіць адхінуцца ні направа, ні налева, а прабіваць сваю самастойную дарогу. Шырока пастаўленая намі ідэолёгія прыдружнай ўзаемнай і ідэйнай працы, прыцягне да нас народныя масы, каторыя будуць служыць апораю ў нашай працы.

Праўда праца нашая будзе цяжкая, можа памалая, але ненапрасная, і ў свой час дасьць патрэбныя рэзультаты.

Пры гэткай супольнай працы нам лягчэй ўсё будзе стварыць інтэлігэнтных рабачаёў, якіх так мала ў Беларусі, ўзгадаваць у іх неабходныя якасьці: цырплівасьць, працавітасьць, здольнасьць тварыць з нутра свайго. І будучае грамадзянства прыродна само сабой перародзіцца, пакіне ману і няшчырасьць і нікому непатрэбнае хліпсьлівае нараканьне, а будзе сьмела глядзець у вочы жыцьцю і цьвёрда пераносіць яго розныя няпрыемнасьці.

**Полацак — Алекса.**

# Да назову „Крывічы“ „Крывія“.

Гісторык Антоновіч у кнізе „Очерки исторіи Западной Россіи“ кажа: „Найстарэйшая зямля, якую прылучылі ліцьвіны на Русі (г. зн. на Беларусі — Я. С.) і якая стала асноўным ядром, каля каторага складалася Літоўска-Рускае (Літоўска-Беларускае — Я. С) гаспадарства — складала Чорная Русь з местамі: Новагарадкам, Зьдзітавым, Горадням, Слонімам і Ваўкавыскам; абласьць удзержыла за сабою да палавіны XIV стагодзьдзя пераважна назоў Крывіцкай зямлі. Дзеля прыкладу Антоновіч прыводзіць выпіску з летапісі крыжацкага летапісца Дусбурга (Dusburg III, cap. 315), запісанаю ў Дусбурга пад годам 1314. Frater Henricus Marschalcus... venit ad terram Crivitiae, et civitatem illam, quae parva Nogardia dicitur, cepit (1314. Брат Гэнрык Маршалак.. прыйшоў у зямлю Крывію і тое места, каторае Навагарадкам завецца, здабыў).

Гэткім парадкам да палавіны XIV стагодзьдзя Заходняя Беларусь звалася Крывіцкай зямлёй, Крывіччынай, Крывіяй. Але ведама ўжо ад летапісца Нестара, што Крывічы займалі ўсходнюю Беларусь — Вялікае Княжства Полацкае і Смаленскае. Значыцца была пара, калі назоў Крівіч, Крывія быў пашыраны на ўвесь наш народ і на ўсю нашую Бацькаўшчыну. Парой гэтай магло быць стагодзьдзе дванаццатае (магчыма без яго пачатку), трынаццатае і прынамся

першая палавіна чатырнаццатага. Значыцца з таго часу, як наш народ стаў звацца адным агульным нацыянальным імем (а не па асобных пляменьнях Крывічы, Дрыгвічі і т. д) называўся гадоў 250 Крывічамі, Бацькаўшчына яго Крывіяй. Потым-жа назоў Крывічы, Крывія быў выцісьнены памалу двумя іншымі назовамі: рэлігійна-культуральным германскім „Русь" і палітычным (а мо й нацыянальным) нашым ці літоўскім „Літва".

Я. Станкевіч.

# Адам Міцкевіч на Беларусі.*)

Паводле

Аляксандра Ельскага.

Калі гаворыцца аб Міцкевічу і яго сямейным гнязьдзечку, тагды, хочаш ня хочаш, высоўваецца пытаньне: чаму столькі карыфэяў навукі і свойскага штукарства, чаму такіх Хадкевічаў, Несялоўскіх, Рэйтанаў, Касьцюшкаў, Багушэвічаў, Манюшкаў, Міцкевічаў, Чачотаў, Кандратовічаў, Занаў, Крашэўскіх і столькі столькі іншых, выдала адна зямелька. Напэўна, сапраўды-ж, гэта ніва ўраджайная, калі такі даець выплад! Дужа трафна выясьнілі гэта Поль і Сыракомля (польскія пісьменьнікі, Поль — паляк; Сыракомля, сапраўднае імя яго Людвік Кандратовіч, па паходжаньню — беларус. Рэд.); першы з іх пяець:

„Lud tam jeszcze nie zmieszany,
wszystko jeszcze jest gniazdowe, —
każdy swój" . . .

Другіж дапаўняае думку:

„Tutaj chrobrym zapałem pierś męża oddycha,
Tutaj miłość dziewicza gorąca, choć cicha,
Tutaj znać burze życia na obliczu starem
Kolejno z pługiem, krzyżem, z mieczem i puharem"

„Dęboróg"

Бо і вадта-ж стары гэты люд, які засяляець аграмадныя прасторы: ад калыскі Дняпровай да Бугу і Нарвы, ад Вялы да Прыпяці — гняздо старавечнага славянізму, старонка герояў, гусьляроў, адносін патрыяршых і ахвяраў дзеля сьвятых ідэалаў. Узята ўсё гэта разам

*) Зборная кніжка выданная дзеля сталетняй гадаўшчыны ураджэньня А. М-ча, Пецярбург 1898.

зьлілося ў духу чыстага племені, на якога гістарычным пні прышчэпляныя брацкія расьліны, разрасьліся ў магутныя, кшталтоўныя галіны, поўныя пахучага цьвету і салодкіх фруктаў!.. Не дарма-ж аб гэтай роднай зямельцы, ўзяўшы ад Баяна аж да нашых дзён, пялі з захапленьнем столькі разоў нашыя поэты, пачэрпуючы з песьняў, легэндаў і апавяданьняў народных поэтычныя натхненьні.

Сапраўды-ж, з роднае нівы вырас гэній Міцкевіча і з гэтае-ж нівы вычэрпываў ён крыніцы да шмат сваіх твораў, аб гэтым сьведчаць такія творы, як: „Świteź“, „Świtezianka“, „Dziady“, „Dudarz“, „To lubię“, „Lilje“, „Ucieczka“, Grażyna“, „Pan Tadeusz“ і іншыя, а надта шмат успомненых мейсцаў і назоваў поэтам, як: „Cyryn“, „Hreczechy“, „Jatra“, „Niemen“, „Naliboki“, „Nowogródek“, „Niedźwiadka“, „Płużyny“, „Ruta“, „Soplicowo“, „Świteź“, „Tuhanowicze“, „Żdzięcioł“ і г. д. паказваюць, кудою найахватней блудзіла думка поэта, якімі вобразамі яна любіла песьціцца. „Grażyna“ пачынаецца прыгожым, ночным выглядам навагрудзкага замку, „Pan Tadeusz“ апастрофай да наймілейшай Літвы; Нёман ёсьць „хатняй ракой“ поэта, ўдоўжкі якой прагуліваўся ад вёскі да вёскі затоплены ў поэзіі яго „Дудар“. У „Dziadach“ бачым сапраўдны прыліў думак, які выплываець з грудзей глыбокай традыцыі і асабістых успамінаў поэта...

Бо меў-жа з чаго чэрпаць поэт, бо традыцыйнае жыцьцё аўтахтонаў яго родных старонак сканстатавана надта навукова. Вось об'ектыўны дасьледчык беларускае мовы і песьні, Безсонов, проста цьвердзіць: што гэтая мова і песьні носяць на сабе рысы глыбейшае старадаўнасьці, як іншыя, ня толькі вялікарускае і ўкраінскае, але і паўднёвых Славянаў; знаходзіць ён у беларускай мове найчысьцейшыя прототыпныя спадкі першае мовы агульна-славянскае, якіх старадаўнасьць удасца толькі зраўняць з песьнямі грэцка-лацінскімі; далей ён сьцьвярждаець, што беларуская мова, мала зразумела для расейцаў, маець толькі сваю, незалежную, дзіўна жыцьцёвую асобнась і ніколі ня была залежнай, як мыльна думаюць, ад уплыву мовы польскае або расейскае, нат' наадварот, — глытала гэты ўплыў і пераварывала яго ў сабе. Дзякуючы гэтаму, належыцца прызнаць ёй правы жыцця, як воргану духа некалькіх міліёнаў тыповага народу, а螺 рознародны варожы наступ на гэтую сьвятую спадчыну славявізму можа толькі прынясьці маральную шкоду народу і літэратуры, перадусім расейскай, бо ў старадаўняй песьні беларусаў знаходзяцца самародныя скарбы поэзіі; а менскі говар — паводле ўспомнянага аўтара — ёсьць найчысьцейшым узорам мовы беларускай (Глядзі прадмову Безсонова да выданых у Маскве ў годзе 1871 ім „Песьні беларускія“).

Міцкевіч, будучы на вышыні славы ў сталіцы сусьвету і выкладаючы падзеі славянскае літэратуры, шмат разоў зварочываўся да роднай літоўскай Русі. Пры гэтым знаходзім пекны ўступ адносна этнографіі і говару народнага гэтай зямелькі ў пролекцыях XXVI і XXVII з 1841 г. Узнаючы сілы і вялікай важкасьці говару народнага для культурнай мовы, Міцкевіч у пролекцыях VII і XX з 1842 году выгаварываець расейскім пісьменьнікам, апіраючыся на сьветлым сказе вядомага князя Вяземскага, што „калісь можа агледзяцца

ў якім недагодным кірунку йшлі, стараючыся адлучыцца з говараў „провінцыяльных“, а прытасовываючы гэтую думку да польскай поэзіі, робіць сільную ўвагу ў пролекцыі XI гэтага-ж году: дзякуючы таму, што Русь выдала найзнатнейшыя народныя песьні, таму слаўныя аўтары ідыліяў XVI веку выходзілі адсюль; Францішак Карпінскі—дзіця кобрынскіх старонак, якога дух жывіўся народнай песьняй—ёсьць аўтарам цуднай поэзіі, за каторы чакаець яго калісьці належная слава ў Русі. У пролекцыі VI з 1842 г. Міцкевіч выказываець вышэйшасьць у часы Пётры В. беларускае мовы, калісь у Літве ўрадавай і наддворнай, адносна дыялекту вялікарускага і ўкраінскага. Міцкевіч пачэрпуючы духа з песьняў народных, саўсім па беларуску ня пісаў, а паклоньнікі ягонай поэзіі, апрача малюсенкіх вынятгкаў, не знайшлі твораў поэты ў беларускай мове і гэта паміма факту, што Беларусь маець незапярэчныя правы хваліцца Міцкевічам, бо аграмадны дух вырас і асьвяціўся на ніве літоўскага славянізму. Адзін толькі пісьменьнік беларускі, сьв. пам, Вінцук Дунін-Марцінкевіч, выдрукаваў у Вільні 1859 году ў мове беларускай тры часьці „Pana Tadeusza“, якога аўтар жадаў бачыць пад кожнай страхой. Аўтар гэтага артыкулу то-ж прабаваў тлумачыць на мову беларускую нікаторыя творы Міцкевіча і трымаець іх у портфэлю, а спроба перакладу праз яго „Pana Tadeusza“ была друкаванай у №-ры 6 „Краю“ з 1885 году. Разумеючы нясумерную важнасьць збаўленнага ўплыву ва народ роднай літэратуры, няраз горача стараліся мы разбудзіць у добрай волі грамадзян ходь дзеля падмогі выдавецтвам у беларускай мове, але наш кліч не зрабіў пажаданага скутку. У выніку гэтага, супроць волі, прыходзіць мне на думку сумны зваротак „Дудара“:

„Як доўгі Неман, я з Лірай усьцяж іду
Праз горкі, брады і бары,
Ад сяла да слабады,
І думачкі свае гуду.
Зьбягаліся людзі, слухалі, да няўцям —
Не зразумелі мяне хутка —
Я сьлёзы абцёр, хаця сэрцу жудка,
Ды і далей пашоў сам“...

Замасьць пад Менскам літоўскім,
16 лістапада 1885 г.

Пераклаў з польскага **Ф. Гр.**

Ант. Мэтуля

# Соцыяльнае пытаньне.

Соцыяльнае пытаньне — гэта вялікі факт нястачы гаспадарскае а бяды грамадзкае наагул, нястачы матар'яльнае, а заганы маральнае, якія ўсе і заўсёды маем перад вачыма, ці глядзім на роскаш багатыроў або галіту пралетараў, ці зварочуем увагу на жыцьцё ў мястох або на вёсцы, на вуліцы або ў сям'і ...

Социяльнае пытаньне гэта сягоньня значыць несупакой і трывогу, тугу й страх, спадзеву й безнадзеяньне тысячаў і міліёнаў (прыраўнуй Т. Г. Масарык Otazka socialni ст. 1).

Што творыць зьмест социяльнага пытаньня? Праблемы багацьця й галіты, капіталу й працы, праблема выраджэньня самаўбійсьцьвенасьці, бязульства (распусты) моладзі, пытаньне аздараўленьня і біолёгічнага разьвіцьця народу. (Прыр. Б. Фоўстка: Česka politika IV стр. 443).

Людзі, якія мучаюцца ад грамадзкіх хваробаў ці гаспадарчых, ці маральных, культурных, палітычных, ня змогуць іх збыцца сваёй сілаю.

Трэба накарміць галодных, лячыць хворых, руліцца аб забытых, даць правы бяспраўным, сьвятло навукі цёмным, — каротка кажучы: падняць грамадзкасьць. Зраўнаваць контрасты ў ёй, асушаць сьлёзы на твары гаротных, ачысьціць людзкасьць. Дзеля гэтага трэба працы людзей, дужых социяльнай ідэяй, арганізаванае працы.

Асьветаю прабуджанае сумленьне бачыць хваравітыя праявы ў грамадзянстве, яны зьневажаюць ягонае пачуцьцё справядлівасьці прынукаюць развязываць іх.

Пытаньне социяльнае ёсьць наўперад пытаньнем гмінным. Есьць пытаньнем быцьця дробных землеробаў, работнікаў, рамесьнікаў, ніжэйшых урáднікаў і ўсіх тых, хто мусіць жыць, але ня мае даволі матар'яльнх сяродкаў да жыцьця, хоць працуе.

Пытаньне социяльнае ёсьць аднак такжа пытаньнем моральным, культурным і палітычным.

Уціск у грамадзянстве слабейшых дужэйшымі — стары. Гэта паказуюць нам сялянскія бунты, войны, рэвалюцыі. Сьвядомыя арганізаваныя спробы асвабаджэньня слабейшых ад эксплёатацыі іх сьвецкай арыстакрацыяй, (паноў, родам, маемасьцяй, вынятковым палажэньнем у грамадзянстве), высокім духавенствам, прывілееванымі клясамі, пачынаецца толькі ў першай палавіне XIX-га стагодзьдзя ў работніцтве, ў апошнім дзесяцігодзьдзі XIX-га стагодзьдзя ў землеробаў.

Пачатак гэтых дамаганьняў быў наўперад у філёзофіі, ў вучэньні аб правах і значэньні асобнага чалавека. Навукі знайшлі водгук, яны вялі да арганізаваньня наўперад работніцтва. Лекаў проці цяжкіх варункаў жыцьця шукалі ў лібэралізьме, ў лібэралістычным ладзе палітычным і гаспадарчым. Лібэралізм будуецца на прынцыпе: свабодным разьвіцьцём усіх індывідуальных сілаў будзе аддалена галіта, чалавек запрацуе добрабыцьцё. Кожны павінен меаць сваю свабоду асабістую, рэлігійную, палітычную, гаспадарчую. Гаспадарства ня мае мяшацца да грамадзкіх інтарэсаў балей, чымся гэтага патрэбна дзеля абароны прыватнае маемасьці і тых заняткаў, якія найкарысьнейшыя грамадзянству і забясьпячэньня свабодна зробленых умоваў. Прынцыпы лібэралізму былі злоўжыты на ніве гаспадарчай, ён памог праўда расьцьвету гаспадарчых сілаў, але

вёў да ненормаванае конкурэнцыі, да разьвіцьця капіталізму. На вёсцы лібэралістычнае вучэньне паддзержывала спэкуляцыю зямлёй (Прыр. Філіповіч. Разьвіцьцё гаспадарча-палітычных ідэй XIX-га стагодзьдзя).

І права свабоды ня можа быць неабмежаным. Свабода ня ёсьць анархія. Калі карысна неабмежаная свабода палітыцы, то гаспадарцы неабходна свабода абмежаная. Свабода працадавальніка прыроднай дарогай вядзе да паняволеньня работніка. Гаспадарчы лібэралізм карысны толькі дужшаму. Промысел, які мае балей магчыні знайсьці вырабныя сяродкі, стаў паграджаць землябству, разьвіўся на кошт землябства, нарушыў раўнавагу гаспадарчых сілаў. Лібэралізм стаў небясьпечным усёй грамадзкасьці тым, што ставіў на гіпотэзе, што грошы зробяць усё, што яны твораць цэмант паміж панам і парабкам, майстрам і вучанікам.

Эканамісты др. Браф аднак кажа: „Лібэралізм дзеля выробленьня духу ініцыятывы й грамадзкага падымку быў пладнейшым, чымся тэорыі й праграмы, што над ім узялі верх“ (Naše ukoly narodohospodarške a česke pravnictwo, Prehled 1911.) Думае тут, як з цэлай яго стацьці відаць, аб соцыялізме. Соцыялізм зьяўляецца новым вучэньнем, новым кірункам жыцьцёвым у грамадзкасьці й гаспадарстве.

Аснаўной, радыкальнай думкаю гаспадарчай яго ёсьць: соцыялізаваньне, г. зн. каб матар'яльнае дабро стала агульным, сябраным, сябрыхаю, зьмена прыватнае маемасьці на грамадзкую, нацыяналізацыя зямлі паможа проці грамадзкай няроўнасьці, заган і несправядлівасьцяў. Прыватна прадпрыймальніцкі выраб і гаспадараньне, некантраляваныя, неарганізаваныя цэнтральнай уладаю, вольная конкурэнцыя вядуць да гаспадарчае анархіі, руіны і гэтым шкодзяць насяленьню. Пры лібэралістычным парадку прагавітасьць прыватных капіталістых вядзе да эксплёатацыі шырокіх работніцкіх масаў. Працу неабходна арганізаваць. Скасаваць прыватную маемасьць. Вырабныя сяродкі павінны стацца маемасьцьцю грамадзкай. Далей безьзямельле. Гэта ёсьць галоўныя дамаганьні соцыялізму. Для землябоба гэта значыць: адняць ягоную собскасьць, адабраць ад яго зямлю, пролетарызаваць яго, зрабіць з яго клясу бяз маемасьці.

Паводле гэтага вучэньня вырабныя сяродкі належаць колектыву, грамадзянству. Сюды адносяцца: палі, лясы, шахты, рэкі й інш. воды, 2. Хвабрыкі, 3. Сяродкі зносін: зялезныя дарогі, параходы, дарогі на сушы й вадзе, склады і ўсё іншае, што служыць дзеля разьвядзеньня й перавозу тавару, і 4. Сырызна на выраб.

Есьць цэлыя сьцягі закідаў проці соцыялізму. Льга аднак прызнаць: соцыялізм мае ў сабе моральна—асвабаджальныя тэндэнцыі, меў уплыў на сумленьне людзкасьці й на ўсьведамленьне народных масаў. Зьвярнуў увагу на варункі, ў якіх жывуць слабыя ў грамадзянстве, і знайшоў спагад у людзей залежных, простых і інтэлігэнтных, уцісканых, галодных.

Але кірунак і спосаб працы, тактыка соцыялістычная, сяродкі, часта дэмагогія, апошняя мэта: соцыялістычнае гаспадарства, колектывістычнае ня толькі не знаходзяць спагаду ў людзей думаючых, але

адганяюць іх. Соцыялізм пярэчыць аснаўной уласьціваецьці людзкога характару: тузе па гаспадарчай аснове моральнае самастойнасьці, вольным разьвіцьці звышсярэдніх сілаў адзінкі, здольнасьці, тузе па асабістым значэньні, любасьці да роднае зямлі. Чалавек бяз прыватнае маемасьці, як паказуе дазнаньне, ёсьць у кожнай грамадзкасьці й моральны залежны й абмежаваны.

Проці соцыялізму стаіць іншы кірунак думаньня й жыцьця грамадзкага,—індывідуалізм,—навука, што падчыркавае апрычоны характар кожнага індывідуума. Кожны чалавек мае найвялікшую вольнасьць у самастойнай дзейнасьці, гаспадарства няхай мяшаецца там, дзе гэтага вымагае грамадзкая бясьпечнасьць і інтэрас асобных клясаў насяленьня. Адзінка няхай мае магчымасьць разьвіваць сваё значэньне на ніве гаспадарчай, моральнай, палітычнай у адносінах да кожнае грамадзкасьці. Гаспадарчая дзейнасьць мае быць пакінена прыватнай прадпрыймальнасьці, самадзейнай працы адзінак.

Індывідуалістыя жадаюць як і соцыялістыя соцыяльнае направы, але йдуць да свае мэты іншай дарогай.

На становішчы індывідуалістычным стаіць гаспадарчы, грамадзкі й палітычны кірунак—земляробкасьць. У гэтым значэньні земляробскасьць стаіць гаспадарчымі навукамі й практыкай у контрасьце з лібэралізмам, у гаспадарчай і палітычнай нязгодзе з соцыялізмам.

Земляробскасьць ставіць (будуе) на першавырабе, на земляробстве. Стаіць проці перацаненьня прамысловасьці, індустрыялізму, каторы ставіць на разьвіцьці промыслу, якому спагадны соцыялізм. Асноўнай думкай земляробскасьці ёсьць: матар'яльнае й духоўнае дабро льга забясьпечыць падымкам земляробства. Ягонаю мэтаю ёсьць забарона а падымак земляробскага вырабу ды палепшаньня палажэньня земляробскае клясы; сяродкі: ўзгадаваньне, самапомач, коопэрацыя, палітыка гаспадарсьцьвенная й соцыяльная.

Земляробская палітыка стараецца, каб як належыцца была цэнена й баронена праца земляробава, стараецца здабыць лепшыя гаспадарчыя й культурныя варункі дзеля быцьця земляроба стараецца аб ужыцьцяўленьні прынцыпаў, якімі мае кіравацца ўлада; ў гаспадарстве, каб варункі, адносіны собскасьці, спадчыннага права, варункі даўговыя, мытныя й г. д. былі ўстаноўлены паводле патрэб земляробскае клясы.

Пад уплывам прынцыпаў лібэралізму й соцыялізму, ды ўплывам грамадзкага арыстократызму, які працу земляробаву не цаніў як належыцца, аб першавырабе ня рупіліся, абмінала яго гаспадарства, абмінала яго веда народа-гаспадарчая. Цяжкое ёсьць палажэньне земляроба, зьмяншэньне сярэдніх гаспадароў, драбненьне й рост даўгу на гаспадарках, заморская конкурэнцыя, якая зьмяншала прыбытак з гаспадаркі, блянкарочныя (блянкатэрміновыя) гандлі біржавыя, рост падатку, ўцёкі з вёскі,—гэта былі небясьпечныя зьявішчы грамадзкія, якія мелі ўплыў на паўстаньне гаспадарчага руху земляробскага ў усіх землях.

У Чэхіі паўстае ўжо на 1880 г., на Мараве крыху пазьней. Палітычная партыя земляробская закладзена ў Чэхіі 1896 г.

Соцыяльны рух земляробскі ў Чэхіі пашыраецца і мае здаровае разьвіцьцё. Але ня толькі ў Чэхіі ёсьць такі рух. Есьць і ў іншых землях: у Англіі, Францыі, Нямеччыне, Расеі ў Югаславіі. Поступ тэхнічных ведаў меў уплыў галоўна на расьцьвет промыслу. Гэтая галіна людзкое дзейнасьці рабіла вялікія зьмены грамадзкія, памагла галоўна местам неспадзявана разьвіцца.

Шмат карысьці прынёс промысл людзкой грамадзкасьці, але выклікаў і няверу і сумліў, як толькі пачаў разьвівацца на шкоду земляробства. Дзеля гэтата зьявіліся дамаганьні: рупіцца аб разьвіцьці ня толькі промыслу, але й земляробства.

Выказаў гэта францускі міністар Мэлінэ ў сваей кнізе: „Паварот на зямлю й прамысловы звышвыраб“. Ен апісуе прамысловы звышвыраб, прычыны яго й насьледкі. Ад промыслу зьявілася безрабоцьце. Ен зрабіў цяжкое палажэньне дробных гандляроў, якія ўтварыліся з ранейшых дробных земляробаў, каторыя аселі ў месьце. Непатрэбнае размнажаньне пасярэднікаў у гандлі робіць дарагоўлю на гаспадарчыя прадукты, пры гэтым самі гандляры толькі мадзеюць. Другая часьць твору разглядае земляробства ў Францыі. Расьце безрабоцьце, дзе знайсьці жарало пражыўленьня? На гэтае пытаньне адказуе пісьменьнік словамі: „Застаецца толькі адзіная ніва дзейнасьці й магчыні разьвіцьця, каторая можа прыняць усе свабодныя сілы й адначасна гэтая ніва мае тое пяршэнства, што ёсьць невычарпальнай прынамся на стагодзьдзі: гэта зямля жывіцелька людзкасьці, багатае вечнае жарало ўсяго рамясла, а калі абернуцца людзі да яе, вернуцца на ўлоньне скуль выйшлі; зямля ёсьць пацяшыцелькай у ва ўсіх бедах, яна нікому ня дасьць памерці, хто яе любіць і ёй верыць“.

Людзі йдуць у месты, каб знайсьці лягчэйшы занятак, хочуць барджэй забагацець, павесяліцца, а колькі іх- дажывецца расчараваньня, галіты. Проці ўцёкаў з вёскі ён хацеў бы памагчы вучэньнем. Побач з адумысловай навукаю трэба вучыць земляроба аб харастве вёскі, будзіць любасьць да яе, трэба ўзгадаваць жанчыну, трэба вытварыць філёзофію жыцьця вясковага.

Мэлінэ радзіць штрахаваньне проці стыхійных няшчасьцяў. Апрача гэтага соцыяльныя й гуманныя ўстановы концэнтруюцца ў мястох, ён радзіў-бы арганізаваць шпіталі і інш. на вёсцы. Радзіць штрахаваньні на старасьць. Дайма парабку зямлю й найляпей парупімся аб яго будучыні. Англіец А. Юнг казаў: Дайце чалавеку векавітае права на скалу і ён у гарод яе аберне.

Парабкі невысяляліся-б у места, каб мелі лапіну зямлі. Дробным гаспадаром была-б дадзена магчымасьць выкарыстаць зімовы час хатнім промыслам.

Пісьменьнік хоча паправіць гаспадарчыя ўмовы земляробства, перанесьці з культурных выдумак гэтулькі на вёску, каб туга па месьце шчэзла.

Вяскоўцы патрабуюць душэўнае забавы, патрэбна заместа дурное гульні ў карты завесьці пяяньне, гімнастыку, музыку й г. п. На гэта патрэбны душэўныя правадыры, людзі з вялікшым кругазорам, якія-бы змаглі пакіраваць асьветнай працаю.

Бэлетрыстыка змагла-бы шмат зрабіць, каб заместа раманаў і повесьцяў, разьлічаных на раздражненьне інстынктаў, займалася матар'яламі выбіранымі з вёскі.

У Голяндыі 1818 г. аддалена безрабоцьце тым, што наймужнейшым і найпільнейшым людзём былі дадзены малыя гаспадаркі на ўрабленьне, якія сталіся ца амортызацыі іх маемасьцяй.

Соцыялістыя спагадаюць высяленьню ў месты, яны думаюць, што людзі там ляпей прыгатуюцца да соцыялістычнага гаспадарства, бо культурна людзі мескія стаяць вышэй, чымся вясковы чалавек. Але вялікі прыліў у месты нарушае раўнавагу гаспадарчую.

Навукі соцыялістычныя, якія прыходзяць у земляробскія кругі, лічыць школнымі, ня можа згадзіцца з прынцыпам іхняга вучэньня — з колектыўнай собскасьцьцю. Людзі-бы вельмі мала рупіліся аб зямлі, а жылі-б з рук ды ў губу — было-б гэта пакушэньне на свабоду француза — а яе й дагэтуль Француз цэніць. (Прыр. др. Суманэк: Zpét k pudé, Naše doba, XIV. 1).

З вёскі цурчаць векавіта новыя адраджальныя сілы ў усе жылы народнага жыцьця. Дык ведайма гэта. Задачай земляробскасьці ёсьць прывесьці ў рух гаспадарчыя, душэўныя й моральныя сілы вёскі.

# Скудзельства.

Сярод Беларускага (Крывіцкага) Народу можна шмат зацеміць жыцьцёвых зьявішчаў, якія, як праявы духа народу, важныя дзеля народна-нацыянальнага быцьця і вельмі цікаўныя з навуковага боку. Шмат ведама абразоў, звычаяў, сьвяткаваньняў, як вечарніцы, дзяды, купальле і інш.

Адным з гэткіх цікаўных зьявішчаў ёсьць скудзельства.

Яно бывае больш менш гэтак. Жанкі зьбіраюцца зраньня прасьці ў хату да аднае гаспадыні.*) Прадуць да паўдня, а з паўдня гаспадар і гаспадыня робяць палудзень — чэсьць. Чэсьць бывае надта багатая. Потым пачынаюцца песьні, скокі „пад язык", робяць розныя штукі з кудзеляю, нават варожаць і інш. Скудзельства бывае ў канцы мясаеду. Жаднага рэлігійнага элемэнту ў часе гулянкі ня прымешываецца. Ладзіцца ў дзень, і дзень будзённы. Усё мае характар сьвецкі. Песьні, што пяюцца, маюць сямейны характар. Пяецца аб адносінах мужыка да жонкі, бацькоў да дзяцеў і г. д. Ясна выступае элемэнт сямейны ў песьнях, дзе пяюць жонкі аб сямейных няшчасьцях і ўцехах.

Яшчэ адна даволі характэрная рыса, што мужчыны ня прыймаюць учасьця ў гэтым сьвяце, а толькі адны жанчыны. Гаспадар дому

---

*) Пры гэтым дзяўчаты не бяруць учасьця, а толькі замужнія—жонкі, ці інакш замужкі.

і той займае другараднае месца. Сьвяткаваньне гэтае падобна нейкаму сьвяту замужак, дзе яны праяўляюць і выліваюць усю сваю душу, ўсе свае пачуцьці, няшчасьці і г. д. Само зьявішча застаўляе нас задумацца аб яго высьненьні. Нябыцьцё рэлігійна — хрысьціянскага элемэнту наводзіць на думку, што гэтае зьявішча ёсьць стары, народны, сьвецкі абрад, які вытварыўся палажэньнем замужкі, надта цяжкім як з боку сямейнага, так і матар'яльнага. Пяяньне песьняў сямейных сьведчыць аб шырокім і вялікім значэньні сямейнага стану, які-б ён ня быў. Добрае жыцьцё дае насьледкі пазытыўныя, а благое — вэгатыўныя, аб чым і пяецца ў песьнях. Скудзельства вырабілася ў працягу даўгога часу. Замужкі пачалі рава разважаць аб сваім палажэньні. Увага зьверненая да праяваў сямейвага жыцьця з дадаткам фантазіі вырабіла цэлы культ у песьнях. Значыцца ў скудзельстве праяўляецца культ замуства, а тым самым і культ мацярынства, культ сям'і.

На скудзельстве жанчыны выказуюць настроі і імкненьні свайго духа. Замужняя жанчына інстынктыўна, ня гледзячы часта на сваё гаротнае жыцьцё, хацела разважаць, выліць сваё гора ці павесяліцца. Інстынкт з разьвіцьцём духовае культуры народу выліваўся ў штораз выразьлівейшыя формы, пакуль не скрысталізаваўся ў грамадзкім цікаўным сьвяце — скудзельстве

Я ведаю, што скудзельства робіцца ў Наваградчыне (Любчы, Шчорсах, Негневічах і пэўне іншых мяйсцовасьцях Наваградчыны). Цікаўна, ці захавалася яно ў іншых часьцях Беларусі?

## Ад Рэдакцыі:

Сябра **І. Н.** напісаў, што помніць аб скудзельстве з таго часу, калі ён яшчэ ім ня цікавіўся. Цяпер ён на чужыні і нястачы свайго веданьня аб гэтым сьвяткаваньні ня можа папоўніць. Рэдакцыя зварачаецца да сябровак і сяброў, што жывуць у Бацькаўшчыне, каб яны зацікавіліся гэтым зьявішчам і запісалі яго падробна. Запісуючы, зьвярніце ўвагу на ніжэйшае:

1) запішэце тэкст песьняў а па магчымасьці і іх мэлёдыі;

2) якія скачуць скокі?

3) якія бываюць варожбы, аб чым? Запішэце самыя варожбы;

4) якія робяць жарты кудзеляю?

5) ці ёсьць азначаныя істравы на скудзельства? ці ёсьць азначана лічба іставаў?

Запісаўшы, адцемце ў якім павеце, воласьці, сяле і ад каго запісалі. Усё запісанае прышлеце ў нашую часопісь дзе яно будзе надрукавана.

# Княжэньне.

Скудзельства носіць характар грамадзкі, але ёсьць другое зьявішча, якое мае характар індывідуальны і паказуе як глыбака западаюць уражаньні ў душу асобнага індывідуума. Аднаго разу ўдалося мне зацеміць гэткі прыпадак: маладая дзяўчына пры хатняй працы надта плакала і вылічала, але сусім не гаварыла што-небудзь знаёмае, навучанае з кнігі, або якую народную песьню плачучы пела, але сама з сябе выдумляла цэлыя песенныя вершы, якія былі твораны вельмі складна. Гэтае галашэньне датычыла жыцьця асобы, як песьні аб мілым сваім, аб сваіх пачуцьцях да мачыхі, ці да бацькоў наагул, якія-б яны ня былі, родныя ці не, аб сваім палажэньні ў вёсцы, аб сваіх занятках чыста асабістага характару, але былі тут і думкі агульныя аб людзкой злосьці ў адносінах да асобы, як агул асобы шмат калі не разумее і сьмяецца. Гэтыя песьні ня былі нігдзе навучаны, — самі сабой плылі з вуснаў. Усё гэта была імправізацыя і імпровізацыя запраўдная ад напльву пачуцьця і натхненьня. Гэткіх імпровізатарак сустракаецца ў Беларусі надта шмат. Галосяць, прыказуюць па памёршых і наагул пры ўсякіх выпадках як смутных, так і вясёлых ня толькі жанкі (замужкі й дзяўчаты), але й мужчыны. Па большасьці гэтыя імпровізацыі выліваюцца ў песьню. Гэта нават у народзе мае свой назоў „княжэньне“. Гэта ёсьць праяваю духовага настрою адзінкі, праяўленьнем свайго самабытнага культурнага характару. Гэта вырабілася ці праяўляецца ў працягу жыцьця асобы. Ня можна прыраўнаваць княженьня да галашэньня плачак, дзе галосіцца па заказу, зьмест вылічаньня выдуманы і навучаны, ці ўзяты з сьвятога пісьма (эвангельля, псалтыра). Гэтая народная імпровізацыя якую можна чуць з гушчаў народных, ёсьць спэцыфічнаю адзнакаю псыхалёгіі нашага народу. Нават гэта можа ёсьць выкліканьне падсьвядомых сілаў духовае народнае структуры, на што цяпер надта зьвярнула ўвагу новая псыхалёгія.

Што датычыць слова „княжэньне“ дык гэта ня собскі назоў гэтага зьявішча, але назой пераўзяты з вясельнага абраду. На вясельлі маладая пры абходзе навокал стала затрымліваецца перад кутом, дзе на лаве ляжыць каравай, і яна над караваем вылічае, прыказуе „кнежыць“. Маладая ў палажэньні княгіні на вясельлі, адгэтуль яе вылічаньне, галашэньне завуць „княжэньне“. А калі вылічае іншая асоба, то так сама кажуць аналёгічна „вылічае як маладая“, ці “кнежыць як маладая“.

Тут важны самы факт княжэньня асобы, на які патрэбна было-б зьвярнуць увагу, хто сустракаецца з народнымі масамі, да якіх яшчэ не прышчапілася модная „культура“. Факты і зьявішчы гэткія даюць надта шмат матар‘ялу дзеля навуковых дасьледзінаў з розных бакой псыхалёгіі адзінкі і масаў, як у народзе праяўляецца жыцьцё духовае, як народ рэагуе на сьвет, г. зн. яго сьветазор, палажэньне, ў якім народ быў ці ёсьць

І. Н.



**ІВАН ЛУЦКЕВІЧ.**

# Музэй Івана Луцкевіча.

## (У пятыя угодкі сьмерці 1919—1924).

Ты схоў сьвяты — ўсяго, што
мелі,
У аддалі ланцуга сталецьцяў,
Слаўнейшы продкі Чарадзеі.
Будзь слаўны, бацька!—моляць
дзеці.

Ты люстра нашых часаў волі,
Галоснай славы у сусьвеце;
Ты сьведак слаўных бойкаў
ў полі.
Сьвятым будзь, мёртвы! —
просяць дзеці.

Памяць Твая ў Краіне Славы,
Бязсьмертна будзе зігацеці.
Тварэц Усяго і Збаўца наш ла-
скавы!
Усьвяці Яго! бо хочуць дзеці.

**Фр. Грышкевіч.**

# Што чытаць па беларуску?

(Практычны парадчык).

Што чытаць? Якіх аўтараў? і ў якім парадку? — вось пытаньні, якія задае кожны інтэлігэнтны чалавек, намерываючыся азнаёміцца з уласнай, або чужацкай літэратурай, ведаючы, што чытаньне прыносе вялікую карысьць толькі ў тым выпадку, калі вядзецца сыстэмна, праграмна.

Тагды бо яно сапраўды пашырае наш умысловы кругазор, паглыбляе веду, ўзбагачывае жыцьцёвы досьлед!

Хаотычнае-ж, бязсыстэмнае чытаньне, пры якім чалавек без разбору хапае першую з боку кніжку, ня гледзячы, ці то штосьці сапраўды цэннае, ці толькі — тандэта, літэратурнае сьмяцьцё, — ня толькі што ня прыносе карысьці, але бязсумліўна шкодзіць чытачу, зацямняючы яму розум ды-й муцячы галаву, а моладзь проста дэмаралізуе.

Вось-жа, каб ухапіць гэну небясьпеку, інтэлігэнтны чытач не аграпічываецца стаўляньнем сабе гэткіх пытаньняў перад чытаньнем, але ўкладае сабе пэўны плян, да якога, колькі мага, сьцісла датарноўваецца ў працягу ўсяго чытаньня.

Што-ж гэта за плян?

У чым замыкаецца сыстэматычнае чытаньне?

Плян гэны, або праграма чытаньня тае ці іншае літэратуры ўкладаецца гэткім чынам, што чытач бярэ датычную гісторыю літэратуры і выбіряе з яе найлепшых аўтараў і іхнія найбольш цэнныя творы, сьпісываючы аўтараў у хранолёгічным парадку.

Праца гэная вольмі карысная, але даволі трудная, дык ня кожнаму даступна.

Ведама што такі-сякі плянік кожны патрапіць скласьці, але мы тут маем на думцы салідна апрацаваную праграму, для якой патрэбны пэўныя кваліфікацыі.

У кожным выпадку нат' дрэнны плянік, лепшы чымся поўная бязсыстэмнасьць, прынясе хоць паменшаную карысьць злажыўшаму яго.

Гэта трэба сабе добра зарубіць кожнаму з чытачоў і заўсёды праводзіць ў жыцьці!..

Пытаньне „што чытаць?“ устае і перад беларускім інтэлігэнтам, і, трэба прызнацца, не заўсёды бывае вырашаным як мае быць.

Яшчэ вялікшы клопат мае з ім здэнацыялізаваны, (спольшчаны, ці абмаскалены), беларускі інтэлігэнт, які зажадае азнаёміцца з „бацькаўскім словам“, з беларускай літэратурай, у гэнай краіне, ня ведае што, дзе, і як?

Вось-жа з мэтай памагчы братом беларусам мы дамо тут ніжэй праграму чытаньня па беларуску, дзе вылічым у хранолёгічным парадку найменшых аўтараў (беларускіх клясікаў) і іх галоўныя творы, а роўна-ж і другарадных, але заслугоўвуючых на ўвагу беларускіх пісьменьнікаў і песьняроў.

Зьвернем так-жа чытачоў і на новыя выходзючыя, або штораз то больш разгараючыя зоркі нашага літэратурнага неба, якія аднак-жа яшчэ не саўсім аформіліся, дзеля чаго вынясеньне аканчальнага прысуду аб іх літэратурнае творчасьці і правільнае ацэнкі яе трэба яшчэ пачакаць колькі гадкоў.

Успомнім тут і пра найлепшыя творы нашае перакладнае літэратуры. Творчасьць Савецкай Беларусі дамо асобна.

У праграме гэнай агранічываемся толькі да новае беларускае літэратуры.

Прагама чытаньня з новае беларускае літэратуры (XIX-га і пачатак XX-га стагодзьдзя).

I. Беларускія клясыкі (найлепшыя аўтары) і іх галоўныя творы.

Вінцук Марцінкевіч. Паэмы: 1) „Гапон", 2) „Купала", 3) „Шчэраўскія дажынкі", 4) „Вечарніцы" (2) і 5) „Пан Тадэуш" (пераклад 2 першых песьняў).

Францішак Багушэвіч. Зборнікі вершаў: 1) „Дудка беларуская" і 2) „Смык беларускі".

Ядвігін Ш. Зборнік новэляў: 1) „Бярозка" і „Васількі", „Успаміны" (мэмуары прозай).

Янка Купала. Драматычныя паэмы: 1) „Сон на кургане" (4 абр.) і 2) „Адвечная песьня" (12 абр.). Драмы: 1) „Раськіданае гняздо" (5 акт.) і 2) „Паўлінка" (2 акт.). Пьеса „Тутэйшыя" (4 акт.).*) Зборнікі вершаў: 1) Шляхам жыцьця" і 2) „Спадчына".*)

Якуб Колас. Зборнік вершаў: 1) „Песьні жальбы" і 2) „Водгульле".*) Паэмы: 1) „Сымон музыка" і 2) „Новая зямля".*) Зборнікі апавяданьняў прозай: 1) „Родныя зьявы" і 2) „Казкі жыцьця"*) (альлегорыі). Повесьць: „У палескай глушы".

Зьмітрок Бадуля. 1) „Абразкі" (імпрэсыі прозай), 2) „На зачарованых гонях" (зборнік апавяданьняў),*) 3) „Пад родным небам" (зборнік вершаў).*)

Максім Багдановіч. „Вянок" (кніжка выбраных вершаў).

Алесь Гарун. „Матчын дар" (зборнік вершаў).

Цішка Гартны. 1) „Хвалі жыцьця" (драма ў 3 акт.).*) 2) „Сокі цаліны" (раман ч. I.)*) і 3) „Песьні працы і змаганьня".*)

Констанцыя Буйло. „Курганная кветка" (зборнік вершаў і сцэнічных твораў).

Натальля Арсеньнева. Дробныя паэзіі. Пераклад вершаў „Дзяды" А. Міцкевіча.

Творы гэнае выдатнае песьняркі беларускай — як гэта ня дзіўна! — дасюль яшчэ ня выдрукаваны асобнай кніжкай і бадзяюцца па рожных календарох беларускіх, газэтах ды журналах.

Францішак Аляхновіч. Драмы: 1) „Няскончаная драма (4 акт.), 2) „Страхі жыцьця" (3 акт.), 3) „Цені" (3 акт.). П'есы: 1) „На Антокалі" (3 акт.), 2) „Манька" (4 акт.), 3) „Пан Міністар" п'еса-сатыра (3 акт.). П'есы гістарычныя: „Бутрым Няміра" (2 акт.) і 2) „Базылішк" п'еса-казка (3 акт.). Камэдыі: 1) „Птушка

*) Творы, азначаныя зоркай, выдрукованы у радавым Менску.

шчасьця“ (3 акт.), 2) „Заручыны Паўлінкі“ (1 акт.) і 3) „Шчасьлівы муж“ (4 акт).

Да гэнай-жа катэгорыі, з пэўнымі аднак-жа засьцярогамі, можна залічыць:

Галубок. Папулярныя драмы і апавяданьні (пераважна ў журналах).

Власт. Апавяданьні і легэнды (па журналах).

Максім Гарэцкі. 1) „Дзьве душы“ повесьць, 2) „Антон“, (нясцэнічная драма), 3) „Рунь“ (зборнік апавяданьняў).

II. Другарадныя аўтары і іх галоўныя творы:

Янка Лучына. — „Вязанка“ (зборнік вершаў).

Аляксандар Пшчолка. Гутаркі, монолёгі і апавяданьні. (Бадзяюцца па газэтах ды журналах, кніжкай дасюль яшчэ ня выданы).

Цётка. „Скрыпка беларуская“ (зборнік вершаў).

Карусь Каганец. „Модны шляхцюк“ (камэд. у 1 акт.). Вершы ў газэтах.

Альбэрт Паўловіч. 1) „Снапок“ (зборнік вершаў) і 2) „Васількі“ (драма вершам у 5 акт.).

Гальяш Леўчык. „Чыжык беларускі“ (зборнік вершаў)

Дзядзька Пранук „Стася“ (новэля).

III. Навейшыя аўтары (больш выдатныя) і іх галоўныя творы:

Л. Родзевіч. 1) „У кавалёвай хаце“ (драм. абраз.), 2) Досьвіткі“ (драмат. абраз.) і 3) „Беларусь“ (зборнік паэзіяў).

Уладзімір Жылка. 1) „Уяўленьне“ (зборнік вершаў).

Янка Пальн. „Аднабочнікі“ — повесьць (у журнале „Крывіч“).

Казімір Сваяк. „Мая Ліра“ (зборнік вершаў).

Дзяргач. „Тыпы Палесься“ (абразкі прозай).

Язэп Нарцызаў. „Вар'ят без вар'яцтва“ (повесьць ч. I).

Гарэцкі. „Чырвоныя рожы“ (драма).

Група пісьменьнікаў „Савецкай Беларусі“. (З выключэньнем старых аўтараў, творачых там):

Кудзелька. 1) На Купальле“ (сцэнічная паэма), 2) „Босыя на вогнішчы“ (рэвалюцыйная паэма) і „Завіруха“ (зборнік вершаў).

Міровіч. 1) „Кастусь Каліноўскі“ (гістар. п'еса ў 7 акт.) і 2) „Машэка“ (п'еса).

Уладзімір Дубоўка. „Строма“ (зборнік вершаў друкаваны ў Вільні).

IV Перакладная літэратура: 1) „Алеся“ — повесьць Купрына, 2) Мцыры“ — паэма Лермантава — пераклаў з расейскае мовы Макар Краўцоў.

Для лепшага азнаямленьня рэкамандуем: 1) „Гісторыю беларускае літэратуры“ і 2) „Хрыстаматыю беларускае літэратуры“. — М. Гарэцкага і „Нашы песьняры“ (літэр. нарысы) — Ант. Навіны.

Вось і ўся праграма!

Як ўжо было казана раней, мы агранічыліся ў ёй да лепшых аўтараў, саўсім абмінаючы вялікую групу трэцярадных пісьменьнікаў, якіх лік, аднак-жа, па меры разьвіцьця беларускае літэратуры

і вялікшых вымогаў ад аўтара з боку крытыкі, — ўсьця-ж меншае.

Зусім зразумела, што па тэхнічных абставінах, мы не маглі з належнай поўнасьцьцю разабрацца ў творчасьці Савецкае Беларусі. Не маючы магчымасьці азнаёміцца з творчасьцю гэткіх драматургаў яе, як напрыклад: Дыла, Гарбацэвіч, і гэткіх паэтаў як: Грамыка, Вольный і т. п. іншых пісьменьнікаў Савецкай Беларусі, мы ня ўлучылі іх у наш сьпісак, ня могучы точна акрэсьліць іх ролі. Але здаецца што ўсе памянёныя, акрамя мо' Грамыкі (аўтара паэмы „Крылан“), падойдуць пад катэгорыю другарадных.

Фактычна дык і творчасьці ўлучаных у спісак: Кудзелькі і Мiровіча мы то-ж не маглі ацаніць як сьлед, ня маючы іх твораў пад рукой, але, ў кожным выпадку, іх, побач з старымі беларускімі пісьменьнікамі, творачымі ў Менску, найбольш расхвальвае тамашняя літэратурная крытыка.

Канчаючы наш артыкул, горача заклікаем ўсё беларускае грамадзянства да азнаямленьня, і то грунтоўнага, з роднай літэратурай, лічучы гэта за маральны абавязак кожнага Беларуса перад Бацькаўшчынай і зьвяртаючы ўвагу на тое, што гэна найлепшае, найбольш пэўнае аружжа наша ў барацьбе з дэнацыяналізацыяй, з якога-б боку і ў якой-бы форме яна не праяўлялася! Тым пэсымістам нашым, якія кажуць што „няма чаго чытаць па беларуску“, доказам, што яны мыляюцца, можа служыць наша праграма (а яна ня поўная, бо шмат цэнных рэчаў знаходзіцца ў рукапісах і яшчэ не выдрукавана).

Наагул трэба адзначыць што, паміж Славянамі мы не апошнія!

Што з выняткам польскае, расейскае і чэскае літэратуры, беларуская літэратура сьмела можа конкураваць з усімі іншымі славянскімі літэратурамі!

Дык чытайма-ж, Браты, памятуючы заўсёды на завет Бурачка: „Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі“!...

Язэп Сьветазар.

# Песьня глядыятараў.

Шуміць шырокі сьвет — амфітэатр і расьцілаецца жыцьцё — бязьмежная арэна.

Яшчэ да нас шумелі тут накормленыя тоўпы і сьмерць бацькоў віталі воплескаў грамамі. Яшчэ да нас вялікі Цэзар неба стварыў шырокі сьвет свой — Калізэй і ўсё жыцьцё прымусіў нас гуляць, каб мы памёрлі на вачох Яго, жорсткіх і сьцюдзёных.

Мы засуджоныя на сьмерць яшчэ, як толькі выйшлі на арэну цырка.

Выходзім мы штодня і адыходзім зноў, а Цэзар з неба ў лёжы дзіўнай з сваей абласканай таўпою харашух, з усьмешкай пазірае зорамі вачоў, сьцюдзёных і бязчулых.

Калі мы адыйдзём і трупы нашы ў spolarium пацягнуць, — на мейсца нашае ізноў прыдуць з мячамі пацяшаць таўпу ў высокім небе, бо так жадае вялікі Цэзар неба, стварыўшы свой шырокі Калізэй.

І мы памром усе на цыркавой арэне...

Мы глядыятары, і засуджоныя на сьмерць.

Адны з нас будуць пацяшаць нябесную таўпу змаганьнем толькі за кавалак хлеба, другія без аружжа бойку распачнуць і тоўстымі рукамі здушаць больш бязвольных, худакроўных — і толькі частка нас пачне гуляць з мячамі й сеткай моцнаю аблытаваць разьбітых злосьнікаў сваіх.

І усё-ж мы ўсе памром на цыркавой арэне ..

Што знача сьмерць? Мы толькі выйшлі на арэну цырка і нас вітаў народ, і вочы як мільёны зор паліліся ў амфітэатры, ўжо там бялела сьмерць з сваім вянцом і нам паветраныя слала пацалункі. А потым-жа, калі жыцьцё сваё кідалі мы як мячык і цяжкімі мячамі пралівалі кроў, яна сьмяялася нам радаснай таўпой і нам вянок свой прынасіла.

І надзявалі нам на грудзі слаўныя таблічкі й мэдалі.

І так, ужо з жыцьцём вучыліся кахаць мы, сьмерці твар спакойны, ціхі.

Яна, праўдзівая, ўсіх роўна цалавала і ўсім аднолькава лілею белую нясла.

Мы ведаем яе і нам прыемны твар яе праўдзівы...

Мы засуджоныя гуляць на цыркавай арэне.

Што дня падходзяць новыя і новыя грамады пакаленьняў, і кожная вітае Неба песьняю аднэй:

— Ave, Caesar, morituri te salutant!

— Цябе, о Цэзару, мы засуджоныя на сьмерць, вітаем! Табою створаны шырокі Калізэй — амфітэатр вялікі і мы прыйшоўшыя сюды тугу Тваю сваёй крывёй і мукамі сваймі разьвесьці, змагацца толькі ў парах дзеля Твае пацехі і ўсіх Табой абласканых сьвятых. —

— Мы, засуджоныя на сьмерць, Цябе вітаем!

Адны ўсё будуць прыкаваны да сваіх турэмных кратаў і ніколі не пабачуць сьвету, разводзячы далей нашчадкаў, яны не адыйдуць ад інтарэсаў дробных і штодзеных; другія будуць саладзіцца ласкаю Тваёю і цела сытае пясьціць пачнуць, —

— і толькі мы ўсе самахвотна выйдзем на арэну ў парах і, падышоўшы да Твае прыгожай лёжы, крыкнем моцна:

—Мы — глядыятары,—мы сіла! Што знача нашае жыцьцё?

– Мы, паміраем на арэне цырку... Калі апошнім цуркам кроў зальле пясок арэны і зручна сеткай злосьнік абаўе, і свой трызубец не адыйме і сьцісьне грудзі цяжкаю нагой, у знак канца і перамогі, — мы ня спужаемся ні воплескаў грамоў, ні шуму, ні крыкаў Неба.

Няхай прыстане ўся таўпа, няхай Нябесны Цэзар сам устане з лёжы, няхай іскрацца вочкі харашух і ўсіх нявольнікаў, засуджаных на сьмерць, няхай дрыжыць магутна цырк:

— Дабі яго!

Мы не папросім у накормленай таўпы свайго ратунку.

І не сказаўшы ўжо нікому ціхага, апошняга: „даруй“, — памром спакойна ў цырку на арэне..

Яшчэ апошні раз маланкай праляліць мінулае жыцьцё, далёкі край, сьцяны і хаткі і тыя ўсе, што будуць нас чакаць дарэмна, ўвесь той край, дзе ўсё мы пахавалі, — і ужо ўвесь мільгануўшы бліск пагасьне ў тумане страшэнным, цёмным...

Дык што тады для нас жыцьцё дрыбніца, гора, турмы?...

Мы засуджоныя на сьмерць, — жыцьцём сваім гуляём...

Мы ня пужаемся ні Цэзара, ні тых сьцюдзёных зор — вачоў. Яго сьвятых, што так бязчула мукі нашы ловяць і дзеля пацехі выпушчаюць на арэну Цырку, — мы ведаем, што толькі нашыя мячы, — ўся сіла сьвету!

І дзеля гэтага няхай яшчэ ўжо засуджоныя на сьмерць сумяцца, плачуць...

Няхай шуміць на небе Цэзар у кругу прыдворных, — мы любім толькі звон мячоў і хочам буры, калі і скрып касьцей і енкі злосьнікаў нясуцца поўнагучнаю каскадай, калі цурчыць вадаграем кроў!..

Жыцьцё — бязьменная, шырокая арэна і мы грачы пяём, зьбіраемся заграць на дзіўных гарфах бойкі; аккорды сьмерці кінем мы ў сымфонію жыцьця і крыкнем сьвету, усім засуджанным на сьмерць:

—Мы глядыятары, жыцьцём сваім гуляем!...

Мы творым толькі ў барацьбе ўсю Славу Калізэя — сьвету!

Мы вучым вас прыгожа паміраць, бо мы і так памром!

Мы-ўсе памром на цыркавой арэне...

Янка Палын.

# РЫБКІ.

Песьня на жалейку (насьлядаваньне).

Выгнала мачыха Яся на двор, у кашульцы адно выгнала...

Якраз месячык з за хмары выйшаў, з за хмары цёмнай і, раз'ясьніўшыся, пакаціўся высока, далёка...

Стаіць Ясенька і перад хатай, плача ціханька: „Матуля“!...

Маці там, дзе месячык у гары, пад месячыкам, пад зоркамі, высока...

Матуля!...

Засьпявала птушка за збожам, гэй, аж у лесе чорным далёка!

Азваліся жабы за крыжам у балоце...
За крыжам ...
Ідзе Ясенька, ідзе, матулю кліча:
Матуля!...
Ня відаць ужо хаты і жаб вя чуваць за крыжам ...

---

Стаў Ясенька над ракою і глядзіць на ваду, як маленькія рыбкі гуляюць...

Адна, другая, трэцяя: шмат рыбак маленькіх. . і месячык другі у вадзе сьвеціць...

У вадзе ...

Як з серабра рыбкі... як кашулька Найсьвяцейшай Паненкі над аўтаром у касьцеле...

Як кашулька Паненькі ...

Хацеў-бы ўхаціць хоць адну рыбку маленькую і ручкі ўпусьціў ваду, а рыбкі ўцяклі аж на дно... На дне шмат рыбак, рыбак маленькіх... далёка глыбока ..

Глыбока ...

Раптам у лазе, гэй там, на другім беразе, паказалася яснасьць вялікая і стаіць... а ў яснасьці маці сама стаіць як жывая!

У яснасьці стаіць і Яся клічэ, кліче:

„Хадзі да мяне Ясенька! Хадзі да мяне сыночак. Хадзі... хадзі".

Матуля!...

---

І выцягнуў Ясенька ручкі маленькія, выцягнуў: да матулі йшоў ракою, вадою глыбокаю...

Матуля!...

І раскрылася вада глыбокая, і ўхапіла Яся нядобрая, а лілея белая, што на вадзе расла, як-бы ад ветру страсанулася.

Лілея белая па Ясю плакала...

Адна...

З. В.

*
* *

Адчыніў я вакно ў свой запушчаны сад,
стала цяжка і душна ў пакоі...
І ўдыхнулі ў душу свой начны арамат,
нахіліўшы галоўкі, ляўкоі,
А па небу мі-ж хмар месяц плыў на чаўне,
маладыя ўсьмяхаліся зоры..
І ў начы, як даўней, на сваей старане
пранасіліся песьні ў прасторы.
Я стаяў быццам труп ля сьцюдзёнай сьцяны,
толькі сэрца ад болю ўмірала...

I ўставалі гады, праплывалі як сны
ў сіняватай імгле пакрывала.
Я стаяў тут адзін... на чужой старане...
пераэкытую кнігу чытаў,
Толькі срыбны прамень на сьцюдзёнай сьцяне
на мяне, як дакор, пазіраў.
Ня было ні сяброў, ні знаёмай душы ...
Хто загляне з ласкавым прыветам?
I дрыжэла душа, як раяль у цішы,
Сумна — ціхім, начным мэнуэтам...
О, чаму гэта ноч і запушчаны сад,
калі сэрца ня мела спакою!
I што разьлівалі па ім арамат,
нахіліўшы галоўкі, ляўкоі ...

В. Сумны.

# Гісторыя аднае сьмерці.

Калісь-то даўно, — як было яму гадоў восем, — чуў ён ад маткі і запамятаў некалькі эвангэльскіх навучэньняў. Матка ягоная была шчырая хрысьціянка—энтузіястка, але хоць была нявграматная, ўмела цаніць тое сьвятое эвангэльскае навучаньне, што чула ад другіх і гэтага вучыла і свайго сына.

А сын цяпер зачыняны і замкнёны ў тоўстых сьценах вастрогу пачаў успамінаць гэтае матчынае навучэньне.

Думкі ягоныя ішлі і далей ўспамінаў ён усё з нейкай радасьцю і дзіўнасьцю. Успамінаў ён тое, што малым чуў і як ён аб гэтым думаў. Успоміны гэтыя не прайшлі бяз сьледу.

Апрацівяла яму хадзіць увад і ўперад па вастрожнай цэлі, ён лёг на сваю жорсткую пасьцель і заснуў. Прысніўся яму дзіўны сон: быццам сам Хрыстос прышоў на вастрожны двор і пачаў вучыць, а ўсе арыштаваныя павыходзілі яго слухаць. З-заду стаіць вастрожнае начальства і пазірае. Яму зрабілася добра і лёгка, і ён зсупальвае ўсю сваю памяць і сваё пачуцьцё і, як мага, стараецца ўглыбіцца ў значэньне таго, што гаворыць Вялікі Божы Вучыцель.

I вось Хрыстос кончыў і кліча яго пальцам да Сябе. Ен падходзіць.

— Што-ж гэта ты доўга гэтак разважаеш, але ня йдзеш да мяне?—

— Я ўжо даўно хачу да Цябе...—адказвае ён—і прачынаецца.. тоўстыя сьцены, краты, латка неба...

Ен доўга ляжыць, як адзервянелы,—потым раптам схопліваецца, плача і кідаецца да вакна з крыкам: "Божа! Я жыць хачу!.. Я хачу волі!.. Божа! Я хачу праўды! Дзе праўда?" —

А на дварэ яму крычыць штось вастрожнае начальства, але ён ня чуе. Тады ўваходзіць наглядчык і вядзе яго ў карцэр. Вечарам яго йзноў прывялі ў адзіночку.

Праз сон ён ізноў схапіўся, кінуўся да вакна, пачаў біць шыбы, хапіў краты, штось шаптаў і плакаў... Знізу штось крычалі даглядчыкі, але ён ня чуў іх.

І вось дзіўны сон яго ў чуцьці ўзбуранага і паднятага духа зышоўся — крыкнуў, заенчаў і ўпаў.

Ен пачуў, што кроў цячэ па целе і ён ляжыць на памосьце, але ня мог зразумець, што гэта значыць, пакуль ня прышлі даглядчыкі і ня вынясьлі яго ў гошпіталь. Толькі тады ён зразумеў, якая яго спаткала ява, ўспомніў свой сон і апошнюю падзею.

На сэрцы ягоным зрабілася лёгка і неяк радасна. Ен усьмяхнуўся і падумаў: — Далі мне на вечную, але не на век. Цяпер я дастаў ўжо запраўды на вечнасьць...

Цераз гадзіну пасьля гэтага ён адышоў у праўдзівую вечнасьць...

* * *

А як-жа ён папаў сюды у гэты вастрог?

Запалілася сэрца пачуцьцём помсты за несправядлівасьць, за зьдзек, за махлярствы.. Запала ў голаў неспакойная думка палючай помсты... і ён адамсьціў. Адамсьціў малады батрак несправядліваму гаспадару і ўцёк. Калі апынуўся ён за вёрст дзесяць ад месца сваёй помсты, тады ён пачуў волю і на волі пачаў разважаць.

Я-ж ня зьвер, а чалавек. Калі я бедны, дык гэта няшчасьце маё, але ніхто ня мае права таптаць маю чэсьць чалавечу. Я не рабіў гэтага дзеля свае карысьці, а калі замучыўся ў рабоце, дык ня ў меру і вол не пацягне — і ўсяму ёсьць канец. А калі ён у працы, над маім істнаваньнем зьдзекуецца, дык маю права чалавека з болю заянчаць і застагнаць — нішчыць яго і руйнаваць....

Гэткаю лёгікай апраўдываў свае палажэньне бедны малады батрак. І ніхто не заступаўся за яго з тых людзей, што капашыліся у панскім гаспадарстве, праклінаючы яго і жадаючы яму праўдзівае кары. Але гэта кара яшчэ доўга пакуль што ня прыткнулася яго.

Быць вольным працаўніком, які зарабляе сабе на хлеб працаю свабоднаю, ён ужо ня мог, бо над ім павіс цяжар закону, закону паноў, закону багатых і вялікіх — які абавязаны быў пакараць яго за варункі ягонае помсты.

Кара спаткала яго цераз два гады.

Два гады таму назад ён адамсьціў за зьдзек і крыўду, а цяпер на жыцьцё глядзеў, як на дарэмнае праваджэньне часу і для яго жыцьцё было бяз сэнсу і вагі — ўсё роўна: здабываць сабе яду на жыцьцё, катарга, ці сьмерць.

Калі яго прывялі на суд і пачалі дапрашываць і абвінавачываць, дык яму нават, як быццам, было дзіўна: чаго ад яго хочуць гэтыя людзі, бо справа саўсім простая. Калі не патрэбна каб ён жыў, дык вяроўку на шыю і... ўсяму канец. Але судзьдзі пастанавілі іначай і асудзілі яго на вечную „адзіночку“.

Пад суровым канвоям прывялі яго за вастрожныя сьцены, апісалі з галавы да ног, пасьля завялі яго ў маленькае памешканьне

з адным вакном, з моцнымі кратамі, з жалезнымі дзьвярмі. І вось гэтак будзе яму да сьмерці...

Як прасядзеў ён адзін дзень у вастрозе, дык пабачыў, што лепей сьмерць, чымся гэткая няволя. І нават ён зрабіў-бы сабе сьмерць, каб было чым.

Прабыўшы нядзелю ён, як-бы звыкся з становішчам і яму здавалася, што воля без радасьці — тое самае, што жыцьцё бяз волі. Якую карысьць ён меў з волі, калі трэба было жыць цаною цяжкіх непасільных ахфяр нейкаму кравапіўнаму „бажышчу“, а жыцьцё ягонае абярагалі ў няволі вастрожнай даглядчыкі — шмат даглядчыкаў.

Ен памалу звыкся з тоўстымі сьценамі, з цэмантовым памостам, з моцнымі кратамі, з жалезнымі дзьвермі, з дзесяцьмі мінутамі спацэру ў круг па двары вастрогу, з дрэннай стравай і г. д.

Жыцьцё не кацілася, а пхнулася, але жыць прыходзіцца і ніякія абставіны ня могуць яго стрымаць, пакуль у сэрцы бьецца кроў. Жыцьцё ідзе сваім шляхам, накідаючы ў баку тое, паміж чаго яно ідзе.

У маладой яго галаве пачалі роіцца дзіўныя думкі і зляжыліся свае асабістыя пачуцьці да моцных тоўстых сьцен, строгага караулу і латачкі неба, якая віднелася з ваконца з кратамі...

І так малады батрак адышоў у праўдзівую вечнасьць.

Такая гісторыя аднае сьмерці. П. С—к.

# Беларускі Сакол, яго мэты і арганізацыя.

Адзін за усіх —
усе за аднаго.

Гэй, чый тупат на гонях зямлі
Па старонцы роднай раздаецца,
Хто падняўся там з чорнай ральлі,
Чый там сьцяг над галовамі ўецца?

Чый там покліч стазычны трасе
Кайданы, што здушылі народ,
Хто там долю і шчасьце нясе,
Чыя песьня б'е ў неба грымот?

То дзяцюцтва сакольскай сям'ёй
Узьнялося з абшараў радных
І магутнай разьлілась ракой,
Гучнай песьняй нат' будзіць глухіх.

Сакалоў беларускіх рады
Узьнялі бел-чырвон-белы сьцяг,
Здабываць выйшлі волю яны,
Ня стрымае й сталёвы іх ўраг!

*С. Глебау.*

Вось мы кажам, што мы Беларускія Сакалы. Паўстаюць пытаньні: чаго мы хочам, куды йдзём, як прадстаўляем сабе Беларускі Сакол ў будучыні? На ўсе гэтыя пытаньні пастараюся адказаць паколькі магчыма.

Наўперад мы павінны цьвёрда сабе выясьніць, што такое „Сакол“ як арганізацыя наагул.

Дык вось-жа „Сакол“ гэта арганізацыя, якая наўцерад стараецца падняць на найвышэйшую ступень у кожнага з сяброў сваіх яго фізычныя і маральныя здольнасьці.

Зьвернена найвялікшая ўвага на фізычнае разьвіцьцё сёстраў і братоў, бо „Сакол“ кіруецца прынцыпам: „У здаровым целе здаровы дух“.

З боку палітычнага „Сакол“ адыгравае так сама вельмі важную ролю, бо ён гатуе патрыётаў, якія ў кожную часіну гатовы выступіць на абарону Бацькаўшчыны і роднага народу.

У Сакале разьвіваецца пачуцьцё роўнасьці, брацтва, самадысцыпліны і г. д.

Вось у галаўнейшых рысах тое, што нам дае Сакол. Шмат-бы прышлося гаманіць, каб пералічыць усё, што нам можа даць Сакол.

Сьмела можна сказаць, што гэта адна з наймацнейшых арганізацыяў на сьвеце. Тут мы ня бачым таго разьядаючага, таго так разьбіваючага нас палітыканства. Тут ёсьць адна сьветлая ідэя: незалежная дужая Бацькаўшчына, брацкая любасьць паміж сабою ды любасьць свайго народу.

Кожны народ, які хоча быць дужым, які хоча быць здаровым мусіць арганізавацца ў Сакол. Яркі прыклад гэтаму нам дае хоць-бы тая самая старавечная Спарта.

У нашыя дні гэткі прыклад нам дасьць Чэхія. Абсолютную большасьць чэскага народу мы відзім сакаламі, а калі прыглядзімся бліжэй, дык пабачым у кожнага сакала паасобку здаровы патрыятызм, шчырае каханьне Бацькаўшчыны і Народу, брацтва, гатоўнасьць у кожную часіну выступіць з аружжам у руках на абарону свабоды і Бацькаўшчыны. Вечная слава сьветлай памяці закладчыкам і арганізатарам Чэскага Сакала братом Міраславу Тыршу і Індрыху Фюгнеру. Іменьні іх залатымі літарамі ўпісаны ў гісторыі Чэхіі, а, хто ведае, можа і ў нашай. Кожнаму Сакалу гэта сьвятыя імёны.

Нам Беларусам (Крывічам) Сакол надта і надта патрэбны. Гэта найпрасьцейшая дарога да незалежнасьці, бо як няхай людзі ня кажуць, а ў наш век лічацца толькі з рэальнай сілаю. Апрача гэтае рэальнае сілы патрэбна вельмі нацыянальная сьвядомасьць, якое ў нас, на жаль, вельмі мала. Сакол гэтую свядомасьць таксама дае.

Калі мы будзем налічаць у сваіх радох прыблізна гэтулькі братоў і сёстраў, колькі налічаюць цяпер чэхі, сьмела магу сказаць — мы перамаглі. Нам ня страшны тады ніякія непрыяцелі,—тады мы здабудзем незалежнасьць.

Вось-жа — дзякуючы прыпадкова шчасьлівым абставінам, дзякуючы братняй помачы Чэскага Сакала, ядро мы ўжо маем, — гэта здружэньне „Беларускі Сакол“ у Празе. Праўда, гэта яшчэ капля ў моры, але, браты, „не за дзень Вільня станавілася“, цьвёрда веру

ў сьветлую будучыню Беларускага Сакала, пры нашай добрай волі і шчырай працы гэтая будучыня ў яго будзе.

27 лютага 1923 г., у гэты гістарычны для нас дзень, быў закладзены Беларускі Сакол — быў створаны Беларускі Сакольскі гурток у Празе. Уся ідэя і арганізацыя ўзята з Чэскага Сакала, толькі прытарнавана да беларускага грунту.

Дзеля чаго-ж мы арганізавалі Сакол, якія нашыя мэты? Браты! Мы арганізавалі Беларускі Сакол ня дзеля гульні, ня дзеля таго каб ляпей правіць. Не, мы арганізавалі Сакол дзеля таго, каб дапяць тае мэты, якое сягоньня дапялі Чэхі. Трэба адцеміць, што ў вызваленьні Чэхіі найвялікшую ролю адыграла сакольства. Прафэсар Масарык, арганізатар чэскіх легіонаў (прэзас гэных), сказаў: „чэскія легіоны вёў дух Тыршы і Фюгнера“. Казаў яшчэ раз: „мы ўзялі тыя ідэі, якія ў аснову сакольства палажылі гэтыя два вялікія мужы“. Вось яны: ніколі паасобку, ці нават таварыствамі, але ўсе разам, як адзін, цесна злучаныя брацтвам даб'ёмся свае мэты, ні на сваю собскую карысьць, але на карысьць усяго народу. Тры галоўныя сувязі павінны мы мець заўсёды на ўвазе, паступова ўсё шыршыя і шыршыя: першая сувязь у вадзіночным здружэньні, потым сувязь усяго сакольства і ўрэшце сувязь усяго народу. Мусім заўсёды мець сабе наўвеце, што можна рабіць заўсёды поступ, удасканалявацца; што ўсё, што зроблена, можна зрабіць ляпей. Адгэтуль выцякае лёзунг: „Вечны рух“. „Вечная несупакоеннасьць“. Асабістага— нічога, агульнае — ўсё. Хто, робячы агульнаю справу, стараецца пакарыстаць з гэтага асабіста, той нічога добрага ня зробіць.

Мы павінны працаваць бяз упынку, пакуль кожны, хто Беларус, ня стане Сакалом.

Сакольская справа тарнуецца да ўсіх клясаў. Мае мэтай фізычнае й маральнае ўзгадаваньне, ўдабрародненьне ўсяго народу, ўзгадаваньне, вядучае народ да сілы, да станоўкасьці, да дабра роднасьці і да здольнасьці бараніць сябе. Дзеля гэтага ўвесь народ мае быць арганізаваны ў Сакольстве.

Нашае дабрабыцьцё, нашая будучыня мусяць быць паложаны на аўтар дабра агульнага. Той, хто хоча мець нейкую славу з сакольства, няхай лепей застанецца там, дзе ён быў дагэтуль, яму няма месца ў Сакольстве.

Гісторыя стварэньняў, асабліва людзкая, ёсьць вечная барацьба за істнаваньне і прадаўжэньне, ў якім падаецца і гіне ўсе тое, што да жыцьця нyздатна і цэласьці перашкаджае; захаваецца пасьля яго толькі сьлед, як акамянеласьць у скалах.

Такі закон прыроды і гэтага не абмінеш. Ніякая слаўная мінуўшчыня, а толькі здаровая дзейная цяперашніна заручае народам будучыню.

Той народ, які ня йдзе наперад — йдзе назад.

І калі які небудзь народ гіне, дык гіне ён толькі па сваёй собскай віне, бо на полі бітвы не разьвязуецца пытаньне быцьця народу, яно разьвязуецца перад бітвай.

З гэтага выплывае: тым большую дзейнасьць ён павінен вытварыць, каб не загінуў сярод большых, каб пры малой сваей колькасьці

былі і засталіся роўнапраўнымі сябрамі людзтва, дзеля гэтага наўперад павінны старацца аб сваім здаровым разьвіцьці і поступе.

Прыклад: Грэкі і Пэрсы.

Нішто, нікая сіла звонку і знутра ня зьніштожыць народу, калі ён сам ня прычыніцца да гэтага, бо калі народ будзе здаровы і разумны — ніякія цёмныя сілы, ніякая мана, ніякі гвалт проціў гэтага народу высланыя ня перамогуць яго (Рымляне). Кожны Сакол павінен хацець усяго; ніхто ня сьмее застанавіцца на паўдарозе. Мы павінны хацець вызваленьня нашае Бацькаўшчыны.

Хто хоча меней — усёроўна, што нічога ня хоча. Кожны сокал павінен памятаваць, што кожны можа пасьпець першым туды, куды мы імкнемся ўсе!

Сакольскі лад ў кожнай справе.

Сто, тысячу разоў паўтарайма гэта, бо толькі рэальнай сілай здабудзем нешта.

Але каб быць здольнымі да гэтага, трэба наўперад быць здатнымі, здаровымі. Брацтва роўнасьць і свабода! Усе за аднаго і адзін за ўсіх!

Вось тыя лёзунгі, за якімі мы ідзём.

Нас яшчэ мала. Могуць быць маладушныя галасы, што скажуць нямарта, бо нічога ня будзе.

Далоў такіх людзей!

Каб нас было 5—6 і то варта за тое, каб стрываць, як зародак будучыні, лепшае і ўцешнае. І найменьшая лічба братоў ёсьць у кожным месцы тым ядром, без якого ня было-б таго будучага расьцьвету. Поступ, разьвіцьцё і вызваленьне нашага народу павінна нам быць найсьвяцейшым прыказаньнем, яму мы павінны пасьвяціць усе свае сілы.

Заложаны Беларускі Сакол 14 братамі і сёстрамі. У працягу тыдня гэтая лічба ўзрастае да 33, дзякуючы таму, што беларускія сакалы нічога не плацілі і асталі ад Чэска-Славацкага Сакала дармавую вопратку. Але борзда мы пабачылі, што важна ня лічба.

Палавіна сяброў прышла на ўкладаньні адзін раз, а потым мы іх і ня бачылі.

Такіх сакалоў нам ня трэба, такія людзі толькі ганьбяць наш Сакол і ўносяць дэзарганізацыю.

Ясна, што ў сілу закона: ўсё шкоднае адкідаецца — рана ці позна наш Сакол павінен быў ачысьціцца ад падобных элементаў. І ачысьціўся. 14 месяцаў нашага быцьця паказалі нам, хто йдзе за справу ідэйна, а хто шукае ў сакале нейкую асабістую карысьць. Блізу ўсе адзінкі, маючыя асабістыя мэты, але ніколі мэты агульна беларускія, — ужо ад нас адышлі. Калі-ж можа нехта йшчэ не адышоў, дык магу запэўніць вас, — ён адыйдзе. Бяз ніякага націску з боку, ён адыйдзе сам.

Сьмела можам сказаць, што нашая сіла расьце. Мы ўжо маем шчасьце відзець групу братоў — запраўдных беларускіх сакалоў — тое моцнае ядро, якое будзе расьці й расьці.

(Працяг будзе).

**Вячаслау Лаускі.**

# ГЭНРЫК МАТУК.

(пасьмертныя ўспаміны)

Да жалобнае кнігі памёршых беларусаў інтэлігэнтаў прыходзіцца з вялікім жалем упісаць яшчэ адно блізкае нам імя нашага сябры с. п. Гэнрыка Матука.

Дня 27 жніўня 1924 г. бязлітасная сьмерць скасіла маладое жыцьцё Г. Матука

С. п. Г. Матук паміж студэнствам вядомы быў ня толькі сваею безгранічнаю працавітасьцю і дужа высокаю этычнасьцю як у жыцьці прыватным так і ў адносінах да таварышоў, але ня менш ён быў знаны і асабліва паважаны за тую шчырую сьведамасьць, з якою адносіўся да працэсу разьвіцьця беларускае справы.

Яшчэ будучы вучням малодшых клясаў Гарадзенскай гімназіі, с. п. Г. Матук шчыра аддаўся студыям культурнага багацьця беларускага народу.

Паходзячы з Гарадзенскага павету Г. Матук дасканальна ведаў душу беларускага селяніна.

Вайна кідаець с. п. Г. Матука ў Пецярбург.

Тутака яго мы бачым ужо студэнтам.

Яшчэ з большаю інтэнсыўнасьцю аддаецца ён грунтоўным студыям беларускага слова.

Ня раз у беларускай бурсе прыходзілася чуць, як с. п. Г. Матук ціха, скромна, але лягічна з вялікім пераконаньнем гаварыў „Няверуючым“ аб багацьці духа і магутнасьці дрэмлючых скарбаў беларускага народу.

Вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, с. п. Г. Матук працуе як сябра Гарадзенскага Беларускага Камітэту.

Пасьля ўступае ў Галоўную Школу Сельскага Гаспадарства ў Варшаве.

Кончыўшы вясною 1924 г. высокую школу ў званьні ляснога інжынера, с. п. Г. Матук маніўся занясьці ў народ сваю навуковую веду, якую між іншым меўся перадаць ў беларускай мове.

Ужо рыхтаваўся на выезд у Віленшчыну.

Перад выяздам мне прышлося спаткаць с. п. Г. Матука на станцыі ў Горадні.

Колькі харошых думак, колькі сільнага жаданьня было у с. п. Г. Матука — працаваць для дабра беларускага сялянства. Буйна ліліся яго пляны на будаўніцтва шчасьця беларускага селяніна.

Бедны, ня чуў с. п. Г. Матук, што сьцюдзёная сьмерць ужо тачыла сваю касу, каб падцяць пульс жыцьця яго.

І не стала с. п. Г. Матука.

Адышоў ад нас назаўсягды адзін з ідэалістаў, сьвята верыўшых у пекную прышласьць беларускага народу.

Адышоў той, каму ў працягу жыцьця беларуская думка была ясным праменьнем душы і сэрца.

Адышоў, аднак пакінуў па сабе пекную памятку сярод сялян суседзяў у змаганьні праўды з крыўдаю, сьвятла з цемраю.

Дык сьпі спакойна, дарагі таварышу; сьпі, а мы жывыя будзем крэпка сьцярагчы твой тастамант барацьбы за самастойнасьць духа беларускага народу. Натусэвіч.

# ХРОНІКА.

— 1.XI адбыўся ў Залі Віленскае Беларускае гімназіі спэктакль, зладжаны Беларускай Драматычнай Майстроўняй. Была пастаўлена „Манька“ камэдыя ў 6-цёх адслонах Фр. Аляхновіча

— 10 лістапада памёр пратаерэй Міхал Галенкевіч, адзін з закладчыкаў Беларускага Навуковага Таварыства.

— Віленская газэта „Tog“ у № 251 з 6 кастрычніка надрукавала пераклад апавяданьня нашага выдатнага пісьменьніка Змітрака Бядулі пад загалоўкам „Малітва малога Габруся“. Пераклад зрабіў жыдоўскі літэратар П. Кон.

30 лістапада адбыўся гадавы сход сябраў Беларускага Студэнскага Саюзу; выбраны новы ўрад Саюзу ў асобах сябраў — Марцінчык Мікола — старшыня, Гагалінскі Ін., Грабінскі Б., Лабенец Яз. і Зянюк А.

— У Унівэрсытэце Стэфана Баторага ў гэтым годзе праф. Цэзарыя Эрэнкрэйцовая чытае лекцыі з этнаграфіі аб беларусах. Выклады чытаюцца цікава, падаецца шмат новых крыніц. Відаць зацікаўлянасьць лекцыямі з боку старэйшага польскага грамадзянства, прадстаўнікоў якога ўдалося бачыць на выкладах.

Вітаем спробу навукова асьвяціць цёмнае дагэтуль для польскага грамадзянства пытаньне. Хоць хацелася-б чуць выклад аб беларусах... па беларуску.

— 27 лістапада ў Горадні выйшла аднаднёка „Гудок“. Зьмест цікавы. Лёзунг яе: „праз клясовае вызваленьня да нацыянальнага“.

— Міністар гандлю і прамысловасьці раз‘ясьніў, што можна падаваць тэлеграмы па беларуску, калі яны напісаны лацінкаю.

— Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Баларусі пастанавіўператварыць Інстытут Беларускае Культуры ў дзяржаўную ўстанову — Акадэмію Навук. (Слово).

— У Радавай Беларусі ў заканадаўчым парадку праведзяна замацаваньне за сялянамі тых кускоў зямлі, на якіх яны працавалі дагэтуль. Гэтым парадкам уведзяна собскасьць на зямлю, калі ў Маскоўшчыне прынята абшчынная форма ўладаньня зямлёю.

— Выйшла з друку новая кніжка Фр. Аляхновіча „Беларускі Тэатр“. (Стар. 114). Дзеля недахвату мейсца агляд адкладаем да № наступнага.

## Жыцьце студэнтау-беларусау у Празе.

— **Конфэрэнцыя Беларускага Студэнства у Празе.** Сёлета ў жніўні ў Празе адбылася конфэрэнцыя беларускага студэнства. Конфэрэнцыя пастанавіла арганізаваць „Аб‘еднаньне Беларускага Студэнства Эміграцыі і Заходняе Беларусі“ і прыняла статут гэнае арганізацыі. Выбраны прэзыдыу дзеля легалізацыі нова-створанае арганізацыі.

— **Дэлегатам беларускага студэнства на міжнародным конгрэсе** ў Варшаве 12—25.IX быў пасланы вышпомняным прэзыдыумам Вала-

дзімер Жылка. Другі дэлегат, Адольф Клімовіч ня мог выехаць, бо польскі консул ня даў візы.

— **Славянскі конгрэс сялянскае моладзі у Любляне** (Югаславія) адбыўся 5—8 верасьня. Беларускі Сялянскі Саюз у Празе, які па свайму складу зьяўляецца арганізацыяй моладзі, паслаў на конгрэс сябру Хв. Клаўсуця.

Яшчэ да конгрэсу Чэхі, Палякі, Сэрбы і Баўгары арганізавалі „Усеславянскі Саюз Земляробскае Моладзі". На конгрэсе меў быць саюз урадова адчынены і прыняты яго статут. Чэская дэлегацыя імкнулася да таго, каб Беларусам і Украінцам на конгрэсе і ў прэзыдыуме саюзе ня даць асобнага мейсца, а каб Беларусы, Украінцы і Маскалі мелі адно супольнае прадстаўніцтва. Гэта выражалася і ў адносінах пісара Саюзу чэха Чарнагорскага, які дзеля прывітаньня неахвотна даваў слова беларускаму дэлегату, прапануючы яму прамаўляць разам і ад маскалёў. Ад гэтага „гонару" сябра Клаўсуць адмовіўся. Сябра маскоўскае дэлегацыі быў выбраны ў прэзыдыум, а Беларус і Украінец не, ня гледзячы на тое, што беларуская і украінская земляробская арганізацыя моладзі шмат старэйшыя за маскоўскую. Але пратэгаваньне маскалёў скончылася, калі палякі заявілі, што яны ні за што не дапусьцяць, каб маскалі ўвайшлі сябрамі ў саюз; нават каб вылучыць усялякую магчымасьць і ў будучыні ўваходу маскалёў у Саюз, Палякі не хацелі, каб саюз зваўся славянскім. Потым іх умовілі і яны згадзіліся зваць славянскім, але пытаньне аб маскалёх ужо й не падымалася.

Беларусы і Украінцы пакуль што не маглі быць прынятымі запраўнымі сябрамі Саюзу дзеля таго, што ня маюць земляробскіх арганізацыяў у Бацькаўшчыне, а толькі на эміграцыі. Надзвычайнымі-ж сябрамі мае прыняць Прэзыдыум Саюзу.

Аб усіх славянскіх паразуменьнях і г. п. трэба сказаць адно: пакуль дзяржаўныя славянскія народы, дзеля ўзаемнае згоды паміж сабою будуць толераваць уціск славянаў славянамі, датуль немагчыма запраўднае славянскае паразуменьне і усё, што робіцца, будзе мець характар няпэўны і нат' будзе кампрамітаваць самую ідэю славянскага зьбліжэньня.

— **Новыя беларускія студэнты у Празе.** Сёлета ў восень на высшыя школы ў Чэхаславаччыне (Празе і інш.) паступіла звыш дваццацёх беларускіх матурыстаў, каторым чэская ўлада дала стыпэндыі. Блізу ўсе яны з Заходняй Беларусі.

Цікаўна адцеміць, што, апрача беларускіх студэнтаў — стыпэндыянтаў чэскае ўлады, ёсьць каля 10 студэнтаў — беларусаў, якія вучацца на свой кошт.

---

Рэдакцыя просіць падпісчыкаў прысылаць рукапісы, пісаныя выразна і на адной толькі бачыне. Рукапісы не зварочываюцца.

---

Рэдактар-Выдавец Адольф Зянюк.

# Абмылы у друку:

| | НАДРУКАВАНА: | ПАВІННА БЫЦЬ: |
|---|---|---|
| бач. 10 рад 1 зверху | языковыяз аконы | языковыя законы |
| „ 14 „ 9 знізу | Другіж | Другі-ж |
| „ 25 „ 3 „ | найменшых | найлепшых |
| „ 26 „ 39 зверху | А. Міцкевіча | А. Міцкевіча (ў рукапісе) |
| „ 30 „ 18 знізу | пяём | на ёй |